



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 студзеня 2014 года №4 (978)




**Заснаваў лялечны тэатр у Маладзечне**

Да 60-х угодкаў з дня нараджэння Сяргея Юркевіча (1954 – 2002)

старонка 6



**Сяргей Карзей:**

"Каб мне доўгія валасы і крыху крывыя ногі – я быў бы непаўторным"

старонкі 20-21

**Школа ў 11 мікрараёне. Займаць чэргі пакуль рана**

с. 5

**Выйшла кніга "Нарачанка і яе берагі"**

с. 2

**У штоператвараў шэрае мястэчка Вілейку талент мастака Страмінскага**

с. 19

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### На ўскрайку Валожына загінуў рабочы

**ВАЛОЖЫН.** Аб пажары ў вагончыку-бытоўні на ўскрайку Валожына паведаміў рабочы. Пра гэта нам паведамілі ў МНС. Выратавальнікі, якія прыбылі на месца здарэння, убачылі, што бытоўня гарыць адкрытым полымем. У выніку пажару драўляны вагончык, абабіты бляхай, выгараў унутры. На месцы пажару выратавальнікі знайшлі цела 57-гадовага мужчыны. Прычына загарання высвятляецца.

### Выпушчаны канверт з маркай да юбілею Васіля Шаранговіча

**МІНСК, МЯДЗЕЛ.** Да 75-годдзя з дня нараджэння народнага мастака Беларусі ўраджэнца Мядзельшчыны **Васіля Шаранговіча** выпушчаны канверт з арыгінальнай маркай. У афармленні маркі і канверта выкарыстаныя працы творцы: "Аўтапартрэт", "Восеньскае поле", "Навальніца прайшла". Цырымонія гашэння канверта адбылася 15 студзеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Аддзел інфармацыі.**

### У наступным нумары "РГ" – каляндар садавода і агародніка



У наступным нумары "РГ" будзе змешчаны традыцыйны Месяцавы каляндар садавода-агародніка на 2014 год (1-е паўгоддзе) з указаннем спрыяльных і неспрыяльных тэрмінаў садова-агародных работ. Як і раней, будзе апублікаваная табліца праходжання Месяцам знакаў задыяка ў 2014 годзе, звесткі аб фазах Месяца і так званых "сатанінскіх" – неспрыяльных – днях. Усе дадзеныя стасуюцца з геаграфічнымі каардынатамі нашага рэгіёна.

**Аддзел інфармацыі.**



# У Вілейцы адкрыўся цэнтр якасці вады

**ВІЛЕЙКА. У панядзелак, 20 студзеня, адбылося адкрыццё Вілейскага рэгіянальнага інфармацыйнага цэнтра па пытаннях якасці вады. Размясціўся ён у сярэдняй школе №3 горада.**

Цэнтр створаны ў межах партнёрскага праекта "Прадухіленне забруджвання прыродных вадаёмаў праз асвету грамадскасці і спецыялістаў", які рэалізуецца ў Беларусі Цэнтрам экалагічных рашэнняў пры фінансавай падтрымцы кааліцыі "Чыстая Балтыка".

– Якая асноўная мэта адкрыцця цэнтра? – запытаў у спецыяліста па ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталлі Парэчынай** (Мінск).

– Гэта забеспячэнне інфармацыяй жыхароў раёна аб стане навакольнага асяроддзя і канкрэтна аб стане вады: як пітной, так і вады з вадаёмаў. Бо кожны чалавек карыстаецца вадой: і п'е, і купаецца, і мые бялізну. А ў залежнасці ад таго, якая вада, такі і стан здароўя чалавека. У цэнтры людзі бясплатна могуць атрымаць адказы на пытанні: "Якую ваду мы п'ем? Як і дзе праверыць яе якасць? Ці можам мы паўплываць на чысціню прыродных вадаёмаў і калодзежаў?"

**– І любы чалавек сюды можа прыйсці?**

– Так. Менавіта для гэтага створаны цэнтр – каб спрасціць доступ людзей да інфармацыі, вызначэння праблемных момантаў. Тут навучаць правяраць ваду ў калодзежах і дадуць рэкамендацыі, як правільна іх уладкаваць. Чалавек можа атрымаць інфармацыю, нейкія кнігі, публікацыі паглядзець – і не толькі па пытаннях якасці вады.

Гэта другі падобны інфацэнтр у Беларусі – першы адкрыты ў Шуміліне Віцебскай вобласці.

**– Чаму выбралі Вілейку для адкрыцця цэнтра?**

– Мы не выбіралі раёны, мы выбіралі людзей. Там, дзе яны больш актыўныя, там і адчыняем цэнтры. У нас адзіная ўмова, каб у праекце ўдзельнічала не менш за 10 школ, а на Вілейшчыне ў нас больш.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Наталля Парэчына дэманструе, як правяраць ваду на ўтрыманне нітратаў.**

Пра важнасць стварэння падобных інфацэнтраў сведчыць прыведзены ў выступленні Наталлі Парэчынай факт:

– Па выніках нашых даследаванняў каля 70 працэнтаў прыватных калодзежаў забруджана нітратамі звыш гранічна дапушчальных канцэнтрацый.

Настаўнікаў, якія прыехалі на адкрыццё, папрасілі прывезці ваду з калодзежаў. І прадэманстравалі, як проста і хутка (за хвіліну) праводзіцца тэставанне на ўтрыманне нітратаў з дапамогай спецыяльных тэстпалосак. Вынікі паказалі, што вада з калодзежа ў Вілейцы добрая, а вось у трох калодзежах з вёсак Пагост і Куранец утрыманне нітратаў у вадзе ў некалькі разоў перавышае гранічна дапушчальную канцэнтрацыю.

– Такая вада непрыгодная для піцця, прыгатавання ежы. І жывёлу ёй лепш не паіць, – падсумавала Наталля Парэчына. – Ёй можна толькі паліваць агарод, выкарыстоўваць для мыцця адзення...

Праўда, падкрэслівае спецыяліст, хоць гэтымі палоскамі шырока карыстаюцца ў Еўропе, але ў Беларусі яны не сертыфікаваныя і не могуць быць падставай для выдачы даведак. Аднак, праверыўшы ваду, чалавек будзе ведаць, ці ёсць у ёй павышанае ўтрыманне нітратаў, і ўжо штосьці рабіць.

Пра тое, як рэагуюць вяскоўцы на выніку даследавання вады ў калодзежах, прыгадвала ў выступленні настаўніца Пагосцкага сада-школы **Ганна Ляшковіч**. Адных ніяк не пераканаць, маўляў, наша вада смачная. А некаторыя і задумваюцца, кажучы: "Будзем у Дзімы ваду браць. У яго добрая – правяралі".

У інфацэнтры таксама плануецца праводзіць семінары і трэнінгі для школьнікаў, настаўнікаў і ўсіх зацікаўленых асоб. Для яго абсталявання госці падарылі ноўтбук, кампактную лабараторыю для аналізаў вады, GPS-навігатар, стэнды, літаратуру.

Неўзабаве падобны цэнтр адкрыецца і ў Мядзеле.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АЛІМПІЯДЫ

# Палова ўдзельнікаў – у пераможцах

**ВІЛЕЙКА. З 13 па 17 студзеня ў Мінскай вобласці праводзіўся трэці – абласны – этап рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах.**

У абласным этапе прынялі ўдзел 31 вучань 8-11 класаў устаноў адукацыі Вілейскага раёна.

Дыпломамі розных ступеняў удастоены 15 з іх, паведаміла галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Іна Яскевіч.**

На рахунку прадстаўнікоў Вілейшчыны тры Дыпломы першай ступені. Іх атрымалі **Таццяна Мікалаевіч** з вілейскай гімназіі №1 "Логас" (па рускай мове і літаратуры), **Мікіта Біслюк** з сярэдняй школы №3 Вілейкі (па хіміі). А **Ганна Шніткоўская** з Вязынскага сада-сярэдняй школы вызначылася ў біялогіі.

Дыпломы другой ступені атрымалі **Алена Вансовіч** (СШ №3 Вілейкі) – па беларускай мове і літаратуры, **Андрэй Жаўняровіч** (Куранецкая СШ) – па хіміі, **Алеся Кузьміч** (вілейская гімназія №2) і **Яўген Ручыц** (вілейская гімназія №1 "Логас") – па працоўным навучанні.

Восем удзельнікаў удастоены Дыпломаў трэцяй ступені. Найбольш з іх – тры – завявалі на алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры. Атрымалі іх **Вікторыя Рагоўская** і **Маргарыта Скабей** (абедзве з вілейскай гімназіі №1 "Логас"), **Ганна Сарока з** вілейскай гімназіі №2. Па рускай мове і літаратуры Дыпломаў удастоены **Алена Пенда** з вілейскай гімназіі №1 "Логас"), па матэматыцы – **Надзея Лапцік** з вілейскай гімназіі №1 "Логас", па хіміі – **Вераніка Нарэйка** (Вязынская сад-сярэдняя школа). У працоўным навучанні вызначыліся навучэнцы вілейскай гімназіі №2 **Кацярына Бабенка** і **Яна Сыракваш.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Уладальнік Дыплома першай ступені па хіміі Мікіта Біслюк з сярэдняй школы №3 Вілейкі.

# Выйшла кніга "Нарачанка і яе берагі"

**Выдавец Зміцер Колас выдаў кнігу Сымона Барыса і Анатоля Рогача "Нарачанка і яе берагі" – энцыклапедыю часткі нашага краю – Павілля.**

Кніга пісалася некалькі год двума аўтарамі, ураджэнцамі нарачанскага краю пісьменнікам і этнографам Сымонам Барысам і краязнаўцам Анатолем Рогачам. Пасля заўчаснай смерці Анатоля Рогача ў 2010 годзе Сымон Барыс завяршаў гэту працу адзін.

Некаторыя фрагменты будучай кнігі ўжо пабачылі свет на старонках нашай газеты. Прадмову да гэтага выдання напісаў археолаг, гісторык і пісьменнік Міхась Чарняўскі (1938-2013).

Выданне ілюстраванае, аб'ём большы за 700 старонак, у цвёрдай вокладцы. Тыраж – 99 экзэмпляраў.

Больш падрабязна аб кнізе чытайце ў адным з наступных нумароў.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Служба 104 інфармуе

**Сёлета ацяпляльны сезон пачаўся раней за звычайны тэрмін. З паніжэннем тэмпературы навакольнага паветра ўладальнікі індывідуальных жылых дамоў пачалі рэгулярна выкарыстоўваць ацяпляльныя газавыя катлы і воданагравальнікі. Аднак пры гэтым не заўсёды выконваюцца элементарныя патрабаванні правілаў бяспекі. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструецца вялікая колькасць выпадкаў атручвання людзей чадным газам.**

Пры спальванні газавага паліва пры недастатковым паступленні кіслароду паветра (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя) з прычыны няпоўнага згарання, выдзяляецца чадны газ, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўсталяваныя газавыя прыборы. З гэтай прычыны можа адбыцца атручванне чадам. Чадны газ у адрозненне ад бытавога не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

Так, 05 кастрычніка 2013 г. адбылося атручэнне чадным газам са смяротным зыходам 17- гадовай дзяўчыны па вул. Асаналіева ў Мінску. Расследаваннем устаноўлена, што на вокнах ў кватэры ўстаноўлены шклопакеты, над газавай плітой змантаваная электравыцяжка, злучаная герметычна паветраводам з вентканалам. Пры адначасовым карыстанні праточным воданагравальнікам і электравыцяжкай у кухні пры зачыненых вокнах стваралася разрэджанне і адбывалася перакульванне цягі ў коміне праточнага воданагравальніка. У выніку прадукты згарання выходзілі ў памяшканне кватэры, што і прывяло да атручвання чадным газам. Варта адзначыць, што ў гэтай кватэры 27 снежня 2010 г. таксама было атручэнне чадным газам 3-х чалавек без смяротнага зыходу .

Адной з асноўных прычын няспраўнасці дымавых каналаў з'яўляецца засмечанне коміна. Коміны забруджваюцца сажай, засыпаюцца смеццем, часам у іх трапляюць птушкі, разбураецца цагляная мура.

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1 % чаднага газу – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

У прадуктах згарання змяшчаецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. У зімовы перыяд гэта можа прывесці да абмярзання галоўкі дымавых комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закупорка і як вынік – пранікненне чаднага газу ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў нагадваем:**

– дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць для прадухілення іх абмярзання;

– уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўсталяваныя газавыя катлы і газавыя воданагравальнікі, абавязаны 1 раз у год, а ў выпадку дымавых каналаў, выкананых з цэглы – 1 раз у 3 месяцы, выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;

– забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;

– газ у сумесі з паветрам – выбуховапажаранебяспечны;

– перад распальваннем катла або воданагравальніка абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);

– памяшканне, у якім устаноўлены газавыя прыборы, павінна рэгулярна ветрацца;

– забаронена ўсталёўваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны , ванны, санвузлы;

– забараняецца пакідаць без нагляду уключаную газавую пліту;

– забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;

– газавае абсталяванне заўсёды трымайце ў чысціні і спраўным стане.

Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё небяспекі.

**МВУ «Маладзечнаміжрайгаз»**
**УНП100008077**

КУЛЬТУРА

# Прэзентавалі гімн Мядзельскага раёна

**МЯДЗЕЛ. У чацвер, 16 студзеня, адбылося раённае мерапрыемства, прысвечанае 95-годдзю ўтварэння БССР. Прайшло яно ў нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня".**

Сярод іншых падзей на ім прэзентавалі гімн Мядзельскага раёна. Гэта твор "Наш край Нарачанскі" (словы народнага паэта Беларусі Максіма Танка, музыка Юрыя Талесніка). Выканаў яго Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча.

Конкурс па стварэнні гімна Мядзельскага раёна быў аб'яўлены летась. На яго паступіла восем заявак, да іх далучылі верш Максіма Танка "Наш край Нарачанскі".

Крытэрыямі для падвядзення вынікаў конкурсу з'яўляўся тэкст на беларускай мове і музыка, якія павінны ўтрымліваць ідэю значнасці Мядзельскага раёна ў кантэксце гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі, мець высокі мастацкі ўзровень, інтанацыйна-меладычную яснасць, урачыстасць, рытм шэсця, запамінальнасць.

У выніку раённая камісія з прапанаваных варыянтаў спыніла свой выбар на творы на словы Максіма Танка. "Наш край Нарачанскі" быў зацверджаны рашэннем райвыканкама ў якасці гімна Мядзельскага раёна.

На раённае мерапрыемства, на якім прэзентавалі гімн, таксама запрасілі аўтараў, якія ўдзельнічалі ў конкурсе. Іх выклікалі на сцэну, уручылі падарункі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Тэкст гімна Мядзельскага раёна**

*Наш край Нарачанскі,*
*Край сініх азёраў,*
*Шляхоў партызанскіх*
*І слаўных падзей,*
*Бароў меднастволых,*
*Жытнёвых прастораў,*
*Свабодалюбівых,*
*Працоўных людзей.*

*Нямала ты бачыў*
*Нягодаў і гора,*
*Пра гэта нам сведчаць*
*Курганы твае,*
*Пра гэта паданні,*
*Быліны гавораць,*
*Пра гэта бурлівая*
*Нарач пяе.*

*Наш край Нарачанскі,*
*Край сініх азёраў,*
*Ты сёння красой*
*Веснавою цвіцеш,*
*Як наша радзіма,*
*Ты сонцам азоран,*
*І чайкай ляціць*
*Твая песня ў бязмеж.*

● ХАРЧАВАННЕ

# Выціснем усе сокі?

**МАЛАДЗЕЧНА. Зіма – час авітамінозаў. Час, калі нашаму арганізму проста неабходна дадатковая крыніца вітамінаў. Адна з такіх крыніц – садавіна і гародніна, а таксама сокі, выціснутыя з іх.**



Фота забяспечана Святланай ХАРЛАН.

Нават 6-гадовая Юля ведае, што свежавыціснутыя сокі самыя карысныя.

Аднак рэклама гаворыць нам, што не ўсе сокі аднолькава карысныя. Мы выбралі самыя папулярныя сярод сокаў з садавіны і агародніны. Разам з доктарам-дыетолагам Маладзечанскай бальніцы **Вандай Анцілеўскай** паспрабуем разабрацца: у чым жа іх карысць?

Гаворка ідзе толькі пра карысць свежавыціснутых сокаў.

**Капусны сок** п'юць пры гастрытах з паніжанай кіслотнасцю, язве страўніка і захворваннях печані і селязёнкі. Сок белакачаннай капусты робіць мацнейшымі крываносныя сасуды, нармалізуе тлушчавы абмен, загойвае язвы.

Тым, хто мае павышаную кіслотнасць страўнікавага соку, капусны сок не рэкамендуецца.

**Морквавы сок** паляпшае зрок, умацоўвае арганізм і аднаўляе сілы пасля хваробы і павышаных разумовых і фізічных нагрузак, гоіць язву страўніка. Ён карысны пры анкалагічных захворваннях, сухотах і малакроўі. Морквавы сок паляпшае апетыт, умацоўвае зубы, павышае супраціўляльнасць інфекцыям.

Ужываць такі сок пры гастрыце, язвавай хваробе і каліце супрацьпаказана.

**Агурочны сок** нармалізуе крывяны ціск і сардэчную дзейнасць, паляпшае стан зубоў, дзяснаў, пазногцяў і валасоў. У сумесі з морквавым сокам дапамагае пры рэўматызме, парадантозе, паляпшае памяць.

**Бурачны сок** карысны пры малакроўі, хваробах сэрца і страўнікавых захворваннях. Паніжае крывяны ціск. Перад ужываннем неабходна некалькі гадзін вытрымаць бурачны сок у халадзільніку.

Не рэкамендуецца піць бурачны сок пры язве страўніка і хваробе дванаццаціперснай кішкі, бо ён раздражнае слізістую абалонку гэтых органаў. У такіх выпадках яго лепш змешваць з морквавым сокам ў суадносінах 1:3.

**Таматны сок** багаты солямі і мікраэлементамі. У ім ёсць вітаміны А і С, якія з'яўляюцца антыаксідантамі і затрымліваюць старэнне клетак, а таксама ўмацоўваюць імунную сістэму.

Таматны сок не рэкамендуецца піць людзям, якія пакутуюць на захворванні нырак і суставаў.

**Сок з чорных парэчак** п'юць пры авітамінозе, малакроўі, гастрыце з паніжанай кіслотнасцю, вострым бранхіце, грыпе, ангіне. Сок чорных парэчак знішчае вірусы, умацоўвае імунітэт, багаты вітамінам С.

**Яблычны сок** карысны пры атлусценні і цукровым дыябеце, пры захворваннях сардэчна-сасудзістай сістэмы, печані, нырак, пры дызентэрыі, хранічных калітах, падагры, рэўматызме, атэрасклерозе, камянях у нырках. Сок выводзіць з арганізма солі цяжкіх металаў і радыенукліды.

Нельга піць яблычны сок пры запаленчых працэсах страўнікава-кішачнага тракту і павышанай кіслотнасці страўнікавага соку.

**Апельсінавы сок.** У апельсінавым соку ўтрымліваецца больш за 85% вітаміну С. Таму шклянка такога соку за сняданкам наладзіць выпрацоўку страўнікавага соку і павысіць супраціўляльнасць арганізма. Аднак калі ёсць запаленне стрававода і страўніка, апельсінавы сок неабходна разводзіць вадой або замяняць іншым напоем.

Сокі хутчэй за садавіну і гародніну засвойваюцца ў арганізме. Пры гэтым затрачваецца менш энергіі, чым пры пераварванні цвёрдай ежы. Каб забяспечыць арганізм пажыўнымі рэчывамі, дастаткова 1-2 шклянак соку ў дзень.

### Ні ў якім разе не замяняйце ваду сокамі

– Ні ў якім разе нельга замяняць ваду сокамі, – лічыць доктар-эндакрынолаг Маладзечанскай паліклінікі **Наталля Дашкевіч**. – Асабліва тымі, што прапануюць нам у крамах. Яны вельмі салодкія і значна павышаюць узровень цукру ў крыві. Я прыхільніца ўсё ж такі натуральных прадуктаў. Калі арганізм патрабуе нейкага вітаміну, то лепей з'есці яблык ці бурак. Нашым пацыентам, дыябетыкам, мы ўвогуле не рэкамендуем ужываць сокі. Што тычыцца вады, то яе піць варта, і многа.

**Наталля ТУР.**

## Падыдзем да сокаў "катэгарычна"

**У табліцы ніжэй мы прывялі самыя папулярныя катэгорыі соку. Спадзяёмся, табліца дапаможа вам больш вольна арыентавацца ў безлічы сокаў на паліцах магазінаў.**

| Катэгорыя соку | Яго ўласцівасці | Недахопы |
|---|---|---|
| **Свежавыціснуты сок (фрэш)** | Самы карысны з усіх сокаў. У ім шмат вітамінаў, ён хутка засвойваецца арганізмам. У ім адсутнічаюць хімічныя рэчывы. | Доўга захоўваць такі сок нельга. Людзям з захворваннямі страўніка нельга ўжываць кіслыя сокі (апельсінавы, яблычны, журавінавы), дыябетыкам супрацьпаказаны вінаградны сок. Для здаровых людзей дзённая норма максімум тры шклянкі фрэшу. |
| **Асветленыя сокі** | Гэта канцэнтрат соку, які асвятляюць, каб надаць яму таварны выгляд, прыбраць частачкі садавіны, якія могуць быць у вадкасці. У такога соку павялічваецца тэрмін прыдатнасці. | У вельмі рэдкіх выпадках для прыгатавання гэтага соку выкарыстоўваюць свежыя ягады і садавіну. Часцей за ўсё гэта канцэнтраты або замарожаныя сокі. Такія сокі падлягаюць тэрмічнай апрацоўцы, што памяншае ў ім карысныя якасці. |
| **Неасветленыя сокі** | Гэта той жа канцэнтрат соку, што і асветлены, але яго не асвятляюць спецыяльна. У ім дапускаецца выпадзенне асадку, могуць быць частачкі садавіны. | Недахопы такія ж, як і ў асветленых сокаў. |
| **Нектар (соказмяшчальны напой)** | Вадкі харчовы прадукт, прыгатаваны з канцэнтраванага соку (пюрэ), пітной вады з дабаўленнем або без дабаўлення водараўтваральных рэчываў. Соку ў нектары 25-50%. | Недахопам з'яўляецца тое, што карысці ад такіх сокаў мала. Проста смачныя, салодкі напой. |
| **Адноўлены сок** | Самы распаўсюджаны від соку на паліцах крамаў. Сок, выраблены з сухіх канцэнтратаў садавіны, гародніны і ягад. Тэхналогія прыгатавання: сухую здробненую садавіну змешваюць з вадой. У атрыманую саладкаватую вадкасць дадаюць хімічныя дадаткі, узмацняльнікі смаку. Дадаюць фарбавальнікі, згодна з найменнем соку. | Гэта цалкам хімічны прадукт. Нічога агульнага з сокам у яго няма. |
| **Морс** | Морс – негазіраваны халодны напой. Морсы выпрабляюць з дзікарослай сыравіны, у асноўным з брусніц ці журавін. Іх вырабляюць са зброджаных і асветленых сокаў з цукровым сіропам і пітной вадой. | Супрацьпаказаны людзям, якія хварэюць на гастрыт. |

| Курсы валют НБ РБ | 16.01 руб. | 23.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 560,00 | **9 590,00** |
| Еўра | 13 040,00 | **13 000,00** |
| Злоты | 3 143,08 | **3 117,03** |
| Літ | 3 773,51 | **3 761,45** |
| Расійскі рубель | 286,50 | **283,00** |
| Грыўня | 1 148,07 | **1 140,31** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9550/9610 | **9560/9620** |
| Еўра | 13010/13110 | **12980/13040** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 15.01 | 22.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 109100 | У сувязі з моцным марозам павільён зачынены. |
| **Сасіскі**, 1 кг | 40200 | |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24800 | |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 72000 | **85000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 93500 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13500** |
| **Алей** | 14500 | **12500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **6000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7700** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9750 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6150 | **6500** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **4500** |
| **Морква**, 1 кг | 4800 | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 22000 | **21500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **15500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 15500 | **15500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 25000 | **23000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 25000 | **-** |
| **Перац**, 1 кг | 34000 | **33000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 25000 | **14500** |
| **Бананы**, 1 кг | 13000 | **12500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8500 | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | - | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | - | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | - | **42000** |
| **Бульба**, 1 кг | - | **-** |
| **Сала**, 1 кг | - | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | - | **50000** |

СЛУЖБА 101

# "101": беражыце сябе


Фота feedel.kiev.ua.

Часам печ можа стаць прычынай пажару.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку новага года на Маладзечаншчыне здарыліся чатыры пажары, у адным з якіх загінуў чалавек.**

Зіма па-ранейшаму застаецца найбольш пажаранебяспечным перыядам. Асноўная прычына смерці людзей – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні ў нецвярозым стане.

### Загінула з-за курэння

Расплачваюцца за сваю няндбайнасць курыльшчыкі сваім жыццём, а часам падвяргаюць небяспецы і жыцці іншых людзей.

Летась 8 кастрычніка каля 1.30 у Радашкавічах па вуліцы Чарнышэвіча загарэўся дом. Калі прыехалі выратавальнікі, дом ужо палаў. У адным з пакояў знайшлі загінулую дачку гаспадара дома. Напярэдадні здарэння яна прыехала наведаць бацьку.

Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

### Будзьце асцярожныя з пячным ацяпленнем

Парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога ацяплення – нязменная прычына трагедый у перыяд ацяпляльнага сезона.

**Летась у Мінскай вобласці было 1406 пажараў, у якіх загінулі 182 чалавекі. Гэта на чвэрць менш, чым пазалетась.**

Па статыстыцы, большасць пажараў адбываецца ў дамах пажылых. І прычына не толькі ў парушэнні правілаў бяспекі. На жаль, людзі паважанага ўзросту не заўсёды могуць адрамантаваць печ на свае сціплыя зберажэнні.

Летась 29 студзеня каля 9.00 у Радашкавічах па вуліцы 3 Ліпеня загарэўся жылы дом. Калі пажарныя прыехалі на месца здарэння, дом быў ахоплены полымем. Гаспадыня, якой было 86 гадоў і жыла адна, загінула.

Прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі печы.

Аднак не толькі пенсіянеры ды тыя, хто жыве адзін, становяцца ахвярамі пажараў па прычыне няспраўнасці пячнога ацяплення. Нярэдкая гэта прычына пажараў у дамах вясковых жыхароў.

### Як атручвае чад

Яшчэ адна праблема, звязаная з пячным ацяпленнем – атручванне чадам. Ён вельмі небяспечны. Ім можна атруціцца нават пры невялікай канцэнтрацыі ў памяшканні, бо не мае ні колеру, ні паху. Адбываецца гэта незаўважна.

**У 2013 годзе пажарным удалося выратаваць 132 чалавекі.**

Механізм уздзеяння чаду на чалавека ў тым, што ён, калі трапляе ў кроў, звязвае клеткі гемаглабіну. Тады гемаглабін губляе здольнасць пераносіць кісларод. Чым даўжэй чалавек знаходзіцца ў чадзе, тым менш кіслароду атрымлівае арганізм.

Чалавек пачынае задыхацца, з'яўляецца галаўны боль, блытаецца свядомасць. Калі своечасова не выйсці на свежае паветра альбо не вынесці на вуліцу чалавека, які ўжо страціў прытомнасць, то не выключаны смяротны зыход.

### Будзьце асцярожныя і з электрапрыборамі

Няспраўнасці і парушэнне эксплуатацыі электрапрыстасавання, прымяненне для абароны электрасеткі самаробных засцерагальнікаў, няспраўная альбо перагружаная электраправодка, электрапрылады, пакінутыя без нагляду, – усе гэтыя прычыны таксама вядуць да ўзнікнення пажараў.

Летась 18 кастрычніка каля 11.00 выратавальнікам паведамілі пра моцны пах дыму ў пад'ездзе дома. Калі яны прыехалі, то вызначылі, што дым ідзе з адчыненага акна кватэры, што на першым паверсе.

Прычына пажару – пакінутая без нагляду электратэхніка.

### Большасць трагедый здараецца ўначы

Часцей за ўсё пажары здараюцца ноччу. Людзі позна іх заўважаюць і паведамляюць у службу МНС. Гэта часта не пакідае шанцаў на выратаванне тых, хто патрапіў у бяду.

**Летась ад агню захавалі матэрыяльных каштоўнасцяў больш чым на 35,5 тысячы мільёнаў рублёў. Гэта ў 1,3 раза больш, чым пазалетась.**

Пазбегнуць гэтага можна, калі выкарыстоўваць пажарны апавяшчальнік. Ён рэагуе на першыя прыкметы задымлення. Апавяшчальнік здольны папярэдзіць аб набліжэнні пажару і гаспадароў, і суседзяў.

### Небяспека – у дзіцячых забавах

Яшчэ адна прычына пажараў, якая выклікае асаблівую трывогу, дзіцячыя забавы з агнём. Гуляюць з агнём дзеці, але вінаватыя – бацькі. Пакінутыя на бачным месцы запалкі альбо запальнічка рана ці позна апынуцца ў руках дзіцяці. І колькі ні папярэджвае служба МНС, што дзеці ўвесь час павінны знаходзіцца пад наглядам, бацькі працягваюць бяздумна рызыкаваць іх жыццём.

Летась 12 з 20 загінулых дзяцей у краіне на момант узнікнення пажару былі дома адны.

Выратавальнікі-пажарныя па-ранейшаму ў баявой гатоўнасці і ў любую хвіліну гатовыя прыйсці на дапамогу. Аднак ваша жыццё і асабістая бяспека ў першую чаргу залежаць ад вас саміх.

Выконвайце правілы пажарнай бяспекі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх.

**Вячаслаў ГРЫНЬ,**
**начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных здарэннях.**

ЗДАРЭННІ

## У Даўгінаве сварка закончылася трагічна

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 19 студзеня, у адным з дамоў у Даўгінаве знойдзены труп мужчыны са слядамі збівання.

Як аказалася, два знаёмыя выпівалі 18 студзеня. Позна ўвечары падчас сваркі адзін збіў другога рукамі і нагамі. У выніку 56-гадовы мужчына памёр.

Узбуджаная крымінальная справа за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія выклікалі смерць пацярпелага.

Затрыманы жыхар вёскі Пагост, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта РБ **Мікалай Раманчук**. У Даўгінаве ён здымаў дом – у якім і адбылася трагедыя. Мужчына раней быў судзімы.

## Крадзяжы з гаражоў у Вілейцы працягваюцца

**ВІЛЕЙКА.** У райцэнтры ў ноч на 16 студзеня абакралі гаражы ў гаражным кааператыве "Зеніт-2002" па вуліцы Гагарына. Каб пранікнуць усярэдзіну, злодзей збіваў навясныя замкі. Залез ён у сем гаражоў.

Браў зламыснік усё, што траплялася пад руку: набор інструментаў, бензакасілку, бензапілу, дызпаліва...

Таксама злодзей угнаў з аднаго з гаражоў аўтамашыну "Фольксваген-Пасат В3". Але далёка на ёй не з'ехаў. Машыну 16 студзеня знайшлі ў кювеце на аўтадарозе Вілейка – Вязынь – Маладзечна каля вёскі Селішча. У машыне была і частка скрадзенага, расказаў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта РБ **Мікалай Раманчук**. Вядуцца пошукі злачынцы.

З пачатку года гэта другі падобны выпадак у Вілейцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхар Радашкавічаў выехаў насустрач "Доджу"

**МАЛАДЗЕЧНА**. Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 17 студзеня ў Радашкавічах.

47-гадовы кіроўца аўтамабіля "Таёта" рухаўся па дарозе Папернproblem-Радашкавічы. На паваросе на Радашкавіцкі цагельны завод, ва ўмовах недастатковай бачнасці, выехаў на паласу сустрэчнага руху. Абганяючы машыну, што рухалася ў спадарожным кірунку, здзейсніў лабавое сутыкненне з аўтамабілем "Додж".

У выніку здарэння кіроўца аўтамабіля "Таёта" атрымаў цялесныя пашкоджанні.

**Сяргей БАРТОШ.**

ШУКАЮЦЬ СВЕДКАЎ ДТЗ

## Дапамажыце знайсці

**МАЛАДЗЕЧНА. Раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь ўстанаўліваюцца сведкі і відавочцы ДТЗ, якое адбылося сёлета 9 студзеня каля 8:30.**

Кіроўца В. на аўтамабілі "Опель-Астра", кузаў – універсал, белага колеру, рухаўся па трактары ля будынка палiклінікі №1 (вул.Скарыны, д.5) і здзейсніў наезд на пешахода грамадзянку Ш., у выніку чаго апошняй былі прычынены цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Пераканаўчая просьба да відавочцаў дадзеных падзей патэлефанаваць па нумары **(8-0176) 77-04-69** з 9:00 да 18:00 (панядзелак-пятніца) следчаму **Зяневічу Віктару Вікенцьевічу**.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Сказаў міліцыі, нібы брат рыхтуе выбух

**МАЛАДЗЕЧНА. Званок каштаваў больш за 10 мільёнаў рублёў.**

Л. у адзін з красавіцкіх дзён выпіў. Узлаваўся на стрыечнага брата і з мабільнага тэлефона пазваніў па нумары 102. Мужчына паведаміў, што яго брат хоча ўчыніць выбух, хаця ведаў, што той і не збіраецца.

11 лістапада суд Маладзечанскага раёна разгледзеў гэтую крымінальную справу.

Санкцыя паводле Крымінальнага кодэкса ў такіх выпадках – пакаранне штрафам ці арышт да шасці месяцаў, ці абмежаванне свабоды да трох гадоў, ці пазбаўленне свабоды да пяці год.

Суд улічыў станоўчыя характарыстыкі абвінавачанага, што ён раней не быў судзімы.

Паводле прыгавору, яго прызналі вінаватым у здзяйсненні заведама няпраўдзівага паведамлення аб запланаваным выбуху і прызначыў пакаранне: штраф памерам 80 базавых велічынь (10 мільёнаў 400 тысяч рублёў).

**Аляксандр ЛЯЎКОВІЧ,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

# Юныя маладзечанскія хімікі сталі практыкамі

## дзякуючы новаму хімічнаму цэнтру

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэсурсны цэнтр падрыхтоўкі алімпіяднікаў па хіміі працуе ў маладзечанскай гімназіі №7.**

– Цэнтр працуе толькі два-тры месяцы, але мы працягваем яго ўдасканальваць і напаўняць новым абсталяваннем, – гаворыць дырэктар гімназіі №7 **Вольга Малярэвіч.**

– З раённага бюджэту нам выдаткавана 900 мільёнаў рублёў. Сёння яны амаль ўсе асвоеныя. Мы зрабілі ўсё, каб наш цэнтр быў насамрэч унікальным і каб у ім было ўсё для падрыхтоўкі да алімпіяд. Кошт аднаго прыбора ў нашым цэнтры – 1000-2000 долараў. Акрамя таго, набытыя нэтбукі, інтэрактыўныя дошкі, розныя дапаможнікі. Праведзеная каласальная работа: зроблены рамонт, закупленая новая мэбля.

**– Чаму менавіта гімназія №7 стала ўладальнікам такога цэнтра?**

– А іншых варыянтаў і не было. Нашы дзеці пад кіраўніцтвам нашых настаўнікаў некалькі гадоў запар стабільна атрымоўваюць прызавыя месцы на алімпіядах па хіміі розных узроўняў. Выпускніца гімназіі **Лізавета Дуровіч** неаднойчы прывозіла дыпломы з алімпіяд міжнароднага ўзроўню: з Японіі, Турцыі.

**– Быць уладальнікам такога цэнтра – гэта вялікая адказнасць?**

– Канешне. У нашым цэнтры ёсць не толькі абсталяванне, каб рыхтаваць дзяцей на самым высокім узроўні, але мы таксама можам праводзіць розныя навучальныя семінары і для настаўнікаў. У нашай настаўніцы хіміі **Наталлі Пашчук** багаты досвед у справе падрыхтоўкі будучых хімікаў, таму не выключана, што з цягам часу можна будзе дзяліцца ім і з калегамі з іншых навучальных устаноў нашага рэгіёна.

**– Як будзе арганізаваная работа цэнтра?**

– На гэтае пытанне я вам адказаць пакуль не магу. Працэс работы будзе каардынавацца з аддзелам адукацыі. Напэўна, будзе складзены пэўны графік, па якім нас будуць наведваць юныя хімікі і іх настаўнікі з іншых навучальных устаноў.

### Пра вынікі працы цэнтра спытайцеся праз год

**– А гімназісты ўжо ацанілі абсталяванне новага цэнтра?**

– Літаральна на днях у нашай гімназіі прайшоў трэці этап рэспубліканскай алімпіяды па хіміі, – адказвае намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце **Ларыса Лазоўская,** – і не толькі дзеці, але і выкладчыца хіміі з БДУ, што была ў журы алімпіяды, была ў захапленні ад абсталявання кабінета.

– А ў нашых дзяцей з'явілася магчымасць у сваёй школе рыхтавацца да практычных заданняў па хіміі самага высокага ўзроўню. Раней дзеці гаварылі, што бачылі, як іх аднагодкі на розных алімпіядах хутчэй спраўляліся з практычнымі заданнямі толькі па адной прычыне, што ў іх проста была "набітая рука". Нашы ж гімназісты былі толькі добра падрыхтаванымі "тэарэтыкамі". Але цэнтр, я ўпэўненая, гэту праблему вырашыць.

**– А поспехі цяперашніх пераможцаў алімпіяд можна звязаць з працай у цэнтры?**



Фота з архіва Наталлі ПАШЧУК

Падчас абласной алімпіяды па хіміі.

– Поспехі нашых алімпіяднікаў – гэта заслуга толькі саміх дзяцей і іх настаўніка, які можа падрыхтаваць да ўдзелу ў алімпіядах абсалютна любога ўзроўню. Звязваць гэтыя поспехі з цэнтрам пакуль рана. Спытайцеся пра гэта праз год.

### Я сама бачыла ў дзеянні не ўсе прыборы

Загадвае цэнтрам настаўніца хіміі Наталля Пашчук:

– Сёння наш цэнтр абсталяваны па апошнім слове тэхнікі. Для цэнтра набытае самае сучаснае абсталяванне: спектрафатометр, PH-метры, сушыльныя шафы, электронныя вагі, якія дазваляюць узважваць рэчывы з дакладнасцю да трэцяй і чацвертай лічбы пасля коскі, мікраскопы з убудаванымі фотакамерамі і шмат чаго іншага. Я і сама не ўсе прыборы бачыла ў рабоце.

**– Што ўяўляе сабой хімічны цэнтр?**

– Гэта кабінет хіміі, у якім праведзены рамонт, закупленае новае абсталяванне, створаны ўсе ўмовы для правядзення практычных заняткаў з вучнямі, прынамсі, да кожнага вучнёўскага стала падведзены краны з вадой, каб можна было рабіць некаторыя хімічныя эксперыменты, не ўстаючы з месца.

**– Якая задача, як у загадчыцы кабінета, стаіць перад вамі цяпер?**

– На сённяшні дзень асабліва востра стаіць праблема, як падрыхтаваць нашых гімназістаў да ўдзелу у заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды. Наколькі я ведаю, ёсць дамова нават з Вілейкай і Мядзелам, да нас будуць прыязджаць юныя хімікі не толькі з Маладзечна, але і з гэтых, а можа, і іншых гарадоў. Толькі адной усе гэта каардынаваць цяжка. Спадзяюся, што ў мяне з'явіцца памочнік.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru



ПРАЕКТЫ

# Школа ў 11 мікраёне. Займаць чэргі пакуль рана

**МАЛАДЗЕЧНА. У 11 мікраёне пабудуюць дзіцячы садок-школу.**

На сённяшні дзень будаўніцтва школы знаходзіцца ў стане распрацоўкі праекта.

Па словах загадчыцы сектара фінансава-гаспадарчай і кадравай работы аддзела адукацыі **Юліі Бахар,** займаць чэргі ў дзіцячы садок рана. Пакуль зроблены толькі адвод зямлі ў 11 мікраёне пад будаўніцтва школы. Вядома толькі, што гэта будзе пачатковая школа і дзіцячы садок-яслі ў адным будынку.

– У пачатковую школу, вядома, у першую чаргу будуць прымацца дзеці з 11 мікраёна. У садок тыя, каму падышла чарга. Але ў чаргу запісвацца пакуль рана, толькі праект будзе распрацоўвацца каля года, а потым будаўніцтва. Калі яно будзе ісці такімі тэмпамі, як будаваўся садок у шостым мікраёне, дзеці пераступяць парог новай школы не раней, чым у 2017 годзе.

Бюджэтам Маладзечанскага райвыканкама на праектаванне ўстановы адукацыі выдзелены адзін мільярд рублёў.

Дагавор на распрацоўку праекта заключаны з камунальным унітарным прадпрыемствам "Інстытут "Маладзечнапраект".

**Аляксандр Юркевіч**, галоўны архітэктар Інстытута "Маладзечнапраект" расказаў "Рэгіянальнай газеце", што школа ў 11 мікраёне будзе разлічаная на 421 месца, 150 з іх адведзена на дзіцячы садок.

**– Скажыце, ці агавораны тэрміны распрацоўкі праекта?**

– Не, перад намі канкрэтнай даты не стаіць. Але па нормах праект не можа распрацоўвацца болей за 14 месяцаў. Але мы будзем імкнуцца завяршыць яго як мага хутчэй. Усё будзе залежаць ад фінансавання.

**– Праект школы будзе тыповым або індывідуальным?**

– Магу сказаць адно, што такога будынка больш няма. Мы распрацоўваем індывідуальны праект двухпавярховага будынка. Ці зацвердзяць яго такім, як мы плануем, гэта ўжо іншая справа.

**Наталля ТУР.**

 



● ТЭАТР

# Заснаваў лялечны тэатр у Маладзечне

**Да 60-х угодкаў з дня народзінаў Сяргея Юркевіча (1954 – 2002)**

**МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА. 60 год таму, 21 студзеня 1954 года, у сям'і Фёдара Юркевіча і Марыі з сям'і Бабровічаў у вёсцы Ілава на Мядзельшчыне нарадзіўся хлопчык Сяргей.**

Ён стаў вядомым дзеячам, карыфеем беларускага тэатральнага мастацтва і беларускай культуры, рэжысёрам лялечных тэатраў, выдатным навукоўцам, кандыдатам мастацтвазнаўства, заснавальнікам двух лялечных тэатраў на Беларусі – у тым ліку і Мінскага абласнога ў Маладзечне.




З сямейнага альбома сястры Ларысы Капцовай (Юркевіч).

Вядомы дзеяч, карыфей беларускага тэатральнага мастацтва і беларускай культуры Сяргей Юркевіч.

## З дзяцінства захапляўся лялькамі

– Яшчэ ў дзяцінстве ён быў актыўным арганізатарам розных ініцыятыў. На хутары Слабада арганізаваў дзіцячую грамадскую бібліятэку. Падгаварыў вясковых дзяцей, каб папрыносілі з дому свае кніжачкі з казкамі да яго дзеда **Івана Бабровіча**, а потым на чарзе карысталіся імі, – прыгадала яго сястра Ларыса.

Яго цётка **Фаіна Бабровіч** успамінае:

– З самага дзяцінства Сяргей вельмі захапляўся лялькамі, сам іх майстраваў і разыгрываў розныя ролі. Калі быў яшчэ дашкольнікам, Сяргей прыязджаў у госці да бабулі Ганны Лук'янаўны на хутар Слабада. Тады да яго прыходзілі дзеці з суседніх хутароў гуляць у лялькі. Прымала ўдзел у гэтых забавах і яго родная сястра Ларыса, музычнае суправаджэнне для многіх пастановак выконваў на баяне яго стрыечны брат **Аляксандр Бабровіч**. Майстэрствам хлопчыка цікавіліся і захапляліся дарослыя, прадракалі яму лёс артыста.

## Школьныя гады прайшлі ў Маладзечне

У 60-я гады сям'я Юркевічаў пераехала з Ілава ў Маладзечна, дзе бацька стаў працаваць будаўніком-аддзелачнікам. У школе хлопчык вучыўся вельмі старанна, пісаў вершы і працягваў займацца лялечнай справай. З пап'е-машэ вырабляў пальцавыя лялькі казачных герояў, размалёўваў іх і з сябрукамі ладзіў аматарскія паказы. Сюжэты ў асноўным чэрпалі з беларускіх народных казак. У Маладзечне прайшлі школьныя і юнацкія гады будучага рэжысёра.

Пасля дзесяцігодкі падаў дакументы ў прэстыжны Ленінградскі дзяржаўны інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі імя Чаркасава (цяпер Санкт-Пецярбургская акадэмія тэатральнага мастацтва) на факультэт рэжысуры. Але дакументы не прынялі, бо юнаку не споўнілася 18 гадоў. Адслужыўшы тэрміновую службу ў арміі, ад свайго намеру не адмовіўся: у 1975 годзе зноў падаў заяву ў гэты ж інстытут і паспяхова здаў уступныя экзамены.

Выпадак выключны для Беларусі, бо ў гэтай навучальнай установе конкурс для абітурыентаў складаў каля 300 чалавек на месца. Гэты факт сведчыць пра настойлівасць у дасягненні мэты і выдатныя здольнасці юнака. У час вучобы яго настаўнікамі былі знакамітыя майстры лялечнай сцэны **Міхаіл Каралёў**, **Сяргей Абразцоў**. На адным курсе з Сяргеем займаўся будучы знакаміты акцёр тэатра і кіно **Ігар Скляр**.

## Стаў рэжысёрам

У 1980 годзе Сяргей закончыў інстытут па спецыяльнасці рэжысёра тэатра лялек. У гэтым жа годзе Міністэрства культуры БССР даручыла яму заснаваць тэатр лялек у Гродне. З пастаўленай задачай Сяргей Фёдаравіч паспяхова справіўся і на працягу сямі гадоў з'яўляўся дырэктарам і галоўным рэжысёрам заснаванага ім абласнога тэатра лялек. У рэпертуары тэатра мелася шмат пастановак для дзяцей, моладзі, дарослага гледача, якія задавальнялі самы вытанчаны густ. У спектаклях шырока выкарыстоўваўся ўвесь арсенал выразных сродкаў сучаснага тэатра лялек: розныя сістэмы лялек, маскі, рухомыя дэталі касцюмаў і дэкарацый, работа акцёраў у драматычным плане. Выдатны аркестравы ансамбль, цудоўная сцэнаграфія, сучасная канцэптуальная рэжысура, глыбокія гуманістычныя і філасофскія спектаклі зрабілі Гродзенскі тэатр лялек адным з цікавейшых у Беларусі і замежжы.

У 1987 годзе Сяргея Фёдаравіча прызначылі галоўным рэжысёрам Брэсцкага абласнога тэатра лялек, дзе ён таксама шырока раскрыў свой велізарны творчы патэнцыял.

## Цягнула ў Маладзечна

Але Сяргея Фёдаравіча цягнула ў горад дзяцінства – Маладзечна. У 1990 годзе яго мара збылася: яму даручылі заснаваць другі ў сваім жыцці тэатр – мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" ў Маладзечне. Тут ён працаваў мастацкім кіраўніком і рэжысёрам-пастаноўшчыкам. Яго намеснікам і паплечнікам быў знакаміты драматург і літаратуразнавец **Пятро Васючэнка**, які атрымаў пасаду загадчыка літаратурнай часткі новага калектыву. У 1995 годзе на базе Беларускага таварыства інвалідаў заснаваў Сяргей Юркевіч і трэці, недзяржаўны, тэатр лялек "Кураж". У 1997 годзе яго прынялі ў шэрагі Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў. Ён пачаў выступаць з рэцэнзіямі ў прэсе, а таксама на беларускім радыё.



З сямейнага альбома сястры Ларысы Капцовай (Юркевіч).

Сяргей Юркевіч у час праходжання вайсковай службы.

## Творчыя здабыткі

За сваё творчае жыццё Сяргей Фёдаравіч здзейсніў каля 40 пастановак для дзяцей і дарослых у лялечных тэатрах Гродна, Брэста, Маладзечна, Мінска.

Сяргей Юркевіч разам з **Леанідам Быкавым** напісалі кнігу-дапаможнік для аматарскіх тэатраў лялек "Чароўны свет тэатра лялек", дзе цікава апісалі асаблівасці лялечнага тэатра. Напісаная імі кніга і цяпер карыстаецца вялікім попытам.

З 1996 года Сяргей Фёдаравіч з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры. Стварыў шмат публікацый па праблемах лялечнага тэатра, друкаваўся ў часопісе "Мастацтва", штотыднёвіку "Культура", прымаў удзел у навуковых канферэнцыях. Ён з'яўляўся актыўным удзельнікам грамадска-культурнага жыцця Беларусі, супрацоўнічаў з беларускімі драматургамі **А.Туравай**, **С. Кавалёвым**, **І. Сідаруком**, П. Васючэнкам, бардам **В. Шалкевічам**, беларускімі рэжысёрамі, кампазітарамі і сцэнографамі, з'яўляўся лаўрэатам першага рэспубліканскага конкурсу творчай моладзі. Быў жанаты з **Марынай Ягоравай**, якая падарыла яму сына Дзяніса.

Памёр Сяргей Юркевіч 19 жніўня 2002 года, пахаваны на Паўночных могілках сталіцы.

**Іван ДРАЎНІЦКІ,**
**вёска Камарова,**
**Мядзельскі раён.**

● ГАСТРОЛІ

# "Сёмуха" з "Чырвонай стужачкай" едуць у Смаргонь

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 студзеня Мінскі абласны драматычны тэатр наведае з гастролямі горад Смаргонь, дзе на сцэне раённага Дома культуры дасць два спектаклі.**

У 12.00 пачнецца вясёлая сцэнічная прыгода для юных тэатралаў пад назвай "Казка пра чырвоную стужачку".

Як і заведзена ў нашых казках, жыў-быў галоўны герой Іван, не зусім, каб сказаць, дурань, але па мянушцы Прастата.

Вось ён наняўся працаўніком у сялянскую гаспадарку, а паколькі доследу і кемлівасці ў такой працы ў Вані не было, ён учыніў у гаспадарцы сапраўдны разлад, да смерці напалохаўшы ўсю хатнюю жыўнасць, за што быў са скандалам выгнаны гаспадарамі з карыснай парадай наўздагон: перш чым брацца за справу, трэба набрацца розуму.

За розумам Іван адпраўляецца да Карча Лысага, у якога, па чутках, "і золата палата, і розуму багата". На шляху, поўным вясёлых прыгод, Ваню трапляюцца розныя персанажы: і станоўчыя, і не надта. Але заканчваецца ўсё добра – як у казцы – вяселлем!

**Спектакль ідзе на рускай мове.**

## Беларускія "рэаліі" 19 стагоддзя

Увечары 28 студзеня ў 19.00 дарослыя гледачы змогуць акунуцца ў беларускія "рэаліі" 19 стагоддзя ў народнай камедыі "На другі дзень Сёмухі". Пастаўлена яна на драматургічнай аснове знакамітых "Прымакоў" Янкі Купалы.

Сцісла нагадаем пра што гісторыя: пасля святочна-застольнай страты памяці на Сёмуху, бацькі сямейства памяняліся жонкамі і хатамі, лічачы, што чужое заўсёды лепш. Аднак на другі дзень свята прыйшлося ўносіць у абмен карэктывы…

**Спектакль ідзе на беларускай мове і аздоблены непаўторным купалаўскім гумарам, які ілюструе менталітэт тагачасных беларусаў.**

**Аляксандр ПЫЦЬКО,**
**кіраўнік літаратурнай часткі тэатра.**



 

● ЗДАРЭННЕ

## Злоўлены паляўнічы з незарэгістраванай стрэльбай

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы панядзелак у паляўнічых угоддзях маладзечанскай лесапаляўнічай гаспадаркі паблізу вёскі Насілава быў затрыманы 52-гадовы маладзечанец.**


Фота bigfunting.ru.

Ён паляваў з незарэгістраванай у органах унутраных спраў гладкаствольнай стрэльбай ІЖ-18 12-га калібру.

Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Маладзечанскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Кірыл Чэбан**. Стрэльба адабраная. Складзены пратакол па ч. 1 арт. 15.37 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (КоАП).

Такое парушэнне цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь (ад 1 млн. 300 тыс. да 6 млн. 500 тыс. рублёў) з канфіскацыяй стрэльбы або без канфіскацыі.

**Аддзел інфармацыі.**



● ВЫСТАВЫ

## Кавалачак Японіі ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ. На тры зімовыя тыдні музей народнай славы ператварыўся ў маленькі кавалачак Японіі: тут прадстаўлена больш за 80 экспанатаў з Краіны ўзыходзячага сонца.**

Прывезлі іх у межах пазнавальна-адукацыйнага праекта "Планета Японія", арганізаванага цэнтрам культуры і спорту "Добрасуседства" з Токіа.

– Асноўная мэта праекта – паказаць Японію такой, якая яна на самой справе, і праз знаёмства з японскай культурай успомніць сваю, убачыць тое, што нас аб'ядноўвае, – кажа прадстаўнік цэнтра **Уладзіслаў Асака.** – Таксама хочам паказаць малавядомыя старонкі гісторыі, звязаныя з консулам **Іосіфам Гашкевічам**, праваслаўем у Японіі.

На адкрыцці выставы Уладзіслаў сыпаў рознымі фактамі пра загадкавую краіну і яе жыхароў, традыцыі і сучаснасць. Пра Японію ён гатовы расказваць гадзінамі: як-ніяк, пажыў там. Таму і маглі наведнікі даведацца безліч фактаў: у прыватнасці, як звязаны самураі і левабаковы рух, чаму японцы вывучаюць рускую літаратуру і спяваюць рускія песні?

– У гэтых песнях ёсць сэнс, ёсць лёгкі сум, ёсць над чым задумацца, – тлумачыць.

І як доказ, потым сярод мноства відэафільмаў і ролікаў пра Японію знайшоў такі, на якім японцы старанна спяваюць "Смуглянку".

Задаваў таксама пытанні. На нейкія дзеці і дарослыя адказвалі адразу, а на якія адказаць не ўдалося, хоць Уладзіслаў і варыянты адказаў прапаноўваў. Скажам, што хаваюць японкі пад вясельным галаўным уборам? Аказалася, "рожкі". Справа ў тым, што ў японцаў існуе павер'е, што ў кожнай прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва ёсць "рожкі рэўнасці". Іх на вяселлі старанна хаваюць, каб нявеста не перайтварылася потым у раўнівую жонку.

Прыгадваў і пра Іосіфа Гашкевіча, які быў першым расійскім консулам у Японіі, а ў канцы жыцця жыў у маёнтку Малі на Астравеччыне.

І вядома, з экспанатамі выставы пазнаёміў. Тут і фігуры самураяў, персанажы японскіх казак – лясун Тэнгу, вадзянік Капа, залаты Дракон, а таксама персанаж тэатра "Кабукі" Белы Леў, лялькі дзевятнаццатага стагоддзя, копіі гравюр Такійскага Нацыянальнага музея, тэатр ценяў, веера, фатаграфіі, зброя і многае іншае.

А дзяцей зачаравала "Індыга-шоу". Вялізныя экспанаты, карціны, малюнкі пакрытыя спецыяльнай фарбай, якая прымае і аддае святло. Некалькі хвілін яны назапашваюць святло ад спецыяльнай лямпы і пачынаюць свяціцца ў цемры. Дзеці і карціну святлом дапамагалі малявац.

– Упершыню ў Еўропе з японскімі фарбамі, якія самі свецяцца, разабраўся творчы саюз "Індыга" з Віцебска, – дадае Уладзіслаў.

– **Для вас які самы цікавы экспанат на выставе?**– пытаю ў яго.

– Гэта лялька з першага праваслаўнага храма ў Хакодатэ і альбом японскіх партызан, якія ваявалі на баку рускіх супраць немцаў.

– **А ў наведнікаў якія з экспанатаў выклікаюць найбольшую цікавасць?**

– У дзяцей – персанажы казак, сцэнка з самураямі. Цікава ім, калі навучаем арыгамі, расказваем пра тое, як вучацца ў японскіх школах. А дарослым рознае цікава: камусьці нэцкэ, некаму – гравюры, хтосьці хоча пераапрануцца ў кімано, сфатаграфавацца на фоне японскіх пейзажаў.

Што ж, увасобіць сябе ў вобразе японкі і больш даведацца пра Краіну ўзыходзячага сонца мядзяльчане могуць да 9 лютага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Уладзіслаў Асака расказвае пра кімано; экспанаты выставы.**

УСПАМІНЫ

# Францішак Сяліцкі: "Гэтай манаграфіяй прагну сплаціць доўг краіне"

*Працяг. Пачатак у №2.*

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ. Нядаўна адзначалася 90-я гадавіна з дня нараджэння прафесара Вроцлаўскага ўніверсітэта, філолага-славіста, этнографа Францішка Сяліцкага (1923-2001).**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Касцёл у Будславе.

*"У пачатку 16-га стагоддзя паўстала новае мястэчка ў тутэйшых ваколіцах, а менавіта Будслаў, якое наваколькны люд называў Будай. Віленскія бернардыны выпрасілі для сябе ў вышэйзгаданага караля Аляксандра Ягелончыка кавалак лесу. Кароль даў ім вялікі абшар пушчы, які размяшчаўся паміж рэкамі Сэрвач, Церак і Зуя, складаючы каля 6000 моргаў. У той час тая тэрыторыя належала да Мінскага павета. Манахі зразалі там дрэвы і вясной сплаўлялі іх па рэках Сэрвач і Вілія ў Вільню, на апальванне свайго кляштару і на продаж. Лес пільнавалі некалькі манахаў, якія пражывалі ў будах. Мелі таксама каплічку, а ў ёй абраз, які аказаўся цудатворным. Хадзілі да яго на малітвы людзі з навакольных вёсак, напэўна, таксама і з Мікуліна, аддаленага ад Будслава на 10 км. Затым бернардыны збудавалі ў тым месцы драўляны касцёл і кляштар для некалькіх законнікаў, вакол якога з'явіліся з часам таксама хаты свецкіх людзей. Назва мястэчка – Будслаў – утвораная ад "буд слаўных", якія сталі яго заснавальнікамі. Як ужо зазначылі, навальны люд называў яго Буда (таксама і ў міжваенны перыяд), ад той буды, у якой спачатку быў цудадзейны абраз, пазней перанесены ў касцёл. У 1589 годзе тут пабудавалі новы касцёл, таксама драўляны, для шматлікіх наплываючых пілігрымаў. Таксама статус мястэчка атрымала ў 1509 годзе раней згаданае паселішча крывічоў Куранец. Яго уладальнікам быў Мікалай Радзівіл, які надаў Куранцу прывілей на кірмашы і корчмы. Мусілі ездзіць да яго таксама вяскоўцы з Мікуліна, бо яшчэ ў міжваенны перыяд улысная туды вазілі свіней на продаж.*

*Статус прыватнага мястэчка мелі таксама Крывічы, якія ў той час належалі заможнаму роду Кішкаў, які паходзіў з Польшчы.*

*Тым часам Даўгінава, падобна як і Будслаў, было шараговым мястэчкам (гаспадарскім, як яго ў той час называлі на ўрадавай мове). На пачатку шаснаццатага стагоддзя там была пабудаваная царква Святой Тройцы, якая відавочна была філіялам у адносінах да ўзгаданай прыходскай царквы ў Жызневе. У 1542 годзе належала да мітрапаліта кіеўскага Макарыя – як запісана ў архіве той царквы. Там жа падаецца, што ў 1545 годзе слуцкі князь Дзмітры Юрэвіч падарыў царкве ў Жызневе кавалак урочышча, якое атрымала назву Папоўшчына...*

*У 1553 годзе пабудавалі ў Даўгінаве касцёл. З таго часу жыхары Мікуліна пачалі ўдзельнічаць у набажэнствах у Даўгінаве, куды было бліжэй чым да Будслава (7 км замест 10)".*

### Паход Стэфана Баторыя

У кнізе Францішак Сяліцкі падрабязна расказвае пра рэлігійнае жыццё на гэтай зямлі (вядома, шмат увагі ўдзяляе Будслаўскай святыні). Апавядае пра падзеі, якія перажывалі мясцовыя людзі:

*"Сярод палітычных падзей, сведкамі якіх былі жыхары гэтых абшараў, варта ўспомніць паход Стэфана Баторыя на Пскоў (1581, вяртанне ў 1582 г.), які праходзіў па полацкім гасцінцы. У Даўгінаве была стаянка. Адгэтуль кароль выслаў атрад войска пад камандаваннем Хмялеўскага з мэтай затрымкі сканцэнтраваных каля Мінска маскоўскіх войск і прыкрыцця пераправы сваіх войскаў праз Вілію (пад Мільчай). За ўдалае выкананне задання Баторы дараваў Хмялеўскаму маёмасць Нябышын і Вітунічы. Абедзве тыя вёскі, размешчаныя над ракой Поняй, прастаялі да міжваеннага перыяду; першая знаходзілася ў былой даўгінаўскай гміне, другая – у суседняй докшыцкай гміне. Іх назвы, як бачым, не былі беларускія, мелі з пэўнасцю паходжанне літоўскае. Яшчэ дабавім, што жыхары вёскі Юдзеўшчына з імем караля Стэфана Баторыя звязвалі паходжанне старых каменных крыжоў, якія сталі пры гасцінцы пад Даўгінавам; распавядалі, што паставілі іх у часы памятнага паходу гэтага караля на Пскоў".* **Вядомае мястэчка Даўгінава**

*"Само мястэчка Даўгінава было ў той час даволі вядомае, галоўным чынам з прычыны свайго знаходжання на ўзгаданым полацкім гасцінцы. Яго назва знаходзілася на выдадзенай у 1613 годзе радзівілаўскай мапе (карце), яе лацінская форма Dolhinow (Будслава і Крывіч на той карце не было). У той час Даўгінава было таксама вядома з-за кірмашоў, якія тут адбываліся, на якія прыязджалі купцы з Мінска (напрыклад, у 1599 г.) і нават з адлеглага Магілёва, як аб тым сведчыць адпаведны запіс у магістрацкай кнізе гэтага горада за 1643 год.*

*Таксама Крывічы развівалі сваю гаспадарку. Між іншым яна фігуруе ў інвентарных архівах пад 1606 годам пад назвай пастаўка падвод, што належала да павіннасці мяшчан. Інвентар занатоўвае таксама існаванне ў Крывічах у 1639 годзе "гасціннага дома", ці заезду для купцоў (такі дом-карчма ў 1643 годзе знаходзіўся таксама ў ляжачым недалёка ад Даўгінава мястэчку Мілча). У Крывічах знаходзіўся пункт сплаву на рацэ Сэрвач. У інвентары з 1639 года фігуруе сярод мяшчан нейкі стэрнік ("кормчы")."*

### Напады царскага войска

У 1654 годзе пачалася вайна Расіі з Рэччу Паспалітай. Расійскія войскі занялі і тэрыторыю нашага рэгіёна.

*"У 1660 годзе нашы землі знаходзіліся пад уладай царскіх войскаў. Жыхары Даўгінава захоўвалі нелаяльнасць да тых уладаў, за што, прызначаны царом на пасаду Віленскага ваяводы князь* ***Дзмітры Мышэцкі*** *выслаў у красавіку таго ж года карны атрад расійскага войска, які прымусіў тых жа жыхароў выплаціць кантрыбуцыю, паразбіваў крамы, здзейсніў разнастайныя злоўжыванні і рабаванні, пасля чаго вярнуўся ў Вільню, забраўшы з сабой аднаго з мяшчан. Яшчэ раз у тым самым годзе Даўгінава зведала новы напад царскага войска, менавіта пасля перамогі польска-літоўскага войска пад Палункай і Ляхавічамі, уцякаючыя недабіткі ноччу атакавалі мястэчка. Мястэчкоўцы аднак аказалі супраціўленне і, хоць з цяжкасцямі, але адбілі напад...*

*У наступным годзе на размешчаныя пад Даўгінавым адзінкі царскага войска напаў польска-літоўскі атрад. Пасля зацятай барацьбы адзінка была разбіта. Царскія жаўнеры разбегліся па лясах, аднак загінулі, часткова з голаду, а часткова з прычыны нападу на іх мясцовых сялян і войска. Сляды гэтай бітвы заставаліся аж да паловы XIX стагоддзя, у выглядзе акопаў, якія знаходзіліся над Сэрвачу."*

**Працяг будзе.**

**Пераклад Міхала ГІЛЯ.**

ЗДАРЭННІ

## Падпалілі аўтамашыну

**МЯДЗЕЛ**. У курортным пасёлку Нарач (Купа) 16 студзеня падпалілі іншамарку. Адбылося гэта каля васьмі гадзін вечара.

Загарэўся аўтамабіль "Хонда-Фіт", які знаходзіўся на стаянцы ля дома па вуліцы Кастрычніцкай. Невядомы разбіў шкло ў дзвярах машыны і закінуў ёмістасць з бензінам.

Загаранне заўважылі гаспадары і самі патушылі полымя. Для гэтага скарысталіся вогнетушыцелем.

У выніку пашкоджаны салон аўтамабіля. Страты ацэненыя ў 20 мільёнаў рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа за наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці. Вінаваты можа быць пакараны абмежаваннем волі на тэрмін да пяці год ці пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці год.

**Аддзел інфармацыі.**

## Смаргонец збіў дваіх пешаходаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Жыхар Смаргоні 17 студзеня здзейсніў наезд на дваіх пешаходаў.

Здарэнне адбылося а шостай гадзіне вечара 17 студзеня. Кіроўца аўтамабіля "Аўдзі" рухаўся па аўтадарозе Смаргонь-Маладзечна. На 23 кіламетры дарогі здзейсніў наезд на 28-гадовага жыхара Турэц-Баяраў і 26-гадовую жыхарку вёскі Хоўхлава.

Хлопец з дзяўчынай пераходзілі дарогу па нерэгулюемым пешаходным пераходзе. У выніку здарэння дзяўчына з атрыманымі цялеснымі пашкоджаннямі дастаўленая ў рэанімацыйнае аддзяленне, хлопец – у траўматалагічнае аддзяленне Маладзечанскай бальніцы. Пешаходы не былі абазначаныя флікерамі. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Сяргей БАРТОШ.**

## Аварыя на дарозе Ракаў-Івянец. Кіроўца шпіталізаваны

**ВАЛОЖЫН**. Здарэнне адбылося ў ноч на 19 студзеня на дарозе Ракаў–Івянец паблізу вёскі Падневічы.

Кіроўца, 37-гадовы мужчына, не справіўся з кіраваннем. Аўтамабіль "Пежо-405" з'ехаў на ўзбочыну і ўдарыўся у дрэва. Спатрэбілася дапамога выратавальнікаў, каб выцягнуць пацярпелага з салона аўтамабіля.

Кіроўца са шматлікімі пераломамі дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне Валожынскай бальніцы, – паведаміў "РГ" старшы інспектар інспекцыі Валожынскага Дзяржпажнагляду **Алег Калітнік**.

**Наталля ТУР.**

# У што пераўтвараў шэрае мястэчка Вілейку талент мастака Страмінскага

**Згадкі Нікі Страмінскай пра Вілейку 1939-40 гадоў**

Ніка (Якабіна) Страмінская (1936-2001), дачка двух выдатных мастакоў: жывапісца і тэарэтыка мастацтва Уладзіслава Страмінскага і скульптаркі-авангардысткі Кацярыны Кобры.

Сям'я Страмінскіх двойчы спынялася ў Вілейцы. Існаванне саюза двух выдатных мастакоў нельга назваць бясхмарным. На ўсё жыццё іх пакінула адбітак Першая сусветная вайна, якая зрабіла Уладзіслава калекам: пазбавіла нагі і рукі, а Кацярыну не пакідалі ўспаміны аб рабоце сястрой міласэрнасці ў маскоўскім шпіталі. Урэшце і спачынак свой яны знайшлі на розных могілках Лодзі, якая стала для іх другой радзімай.

Але нездарма кнігу сваіх успамінаў, фрагмент з якой мы друкуем, Ніка Страмінская назвала "Каханне, мастацтва і нянавісць", на першае месца паставіўшы слова "каханне". Кніга пабачыла свет у сярэдзіне 80-х у Польшчы. Адзін з яе асобнікаў аўтарка падарыла Вілейскаму краязнаўчаму музею ў час свайго адзінага паваеннага візіту ў горад над Віліяй на наступны год пасля 100-гадовага юбілею Уладзіслава Страмінскага, у 1994 годзе.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



Уладзіслаў Страмінскі. "Чалавек і пейзаж з дамамі". Цыкл "Заходняя Беларусь", 1939 год. Музей мастацтва ў Лодзі. Малюнак зроблены ў Вілейцы.

"І вось прыйшла вайна", – пісала праз шмат гадоў Кацярына Кобра. – "Мой муж пераконваў, што трэба ратавацца ад бомб. Кінуліся ў Крэсы. Ён нічога не нёс, я – усё і дзіця. Пасля васьмі дзён бамбардзіровак даехалі да Вілейкі. Пасля тыдня або двух, не памятаю, прыйшлі расіяне.

Пра той перыяд жыцця маіх бацькоў не напісана нічога. **Зоф'я Барановіч** (гісторык мастацтва, А.М.) зрабіла выключэнне. Аб 1939 годзе згадала ў "Календары": "1 верасня выбух Другой сусветнай вайны. Уцякаючы ад нямецкага войска, Страмінскія выехалі ў Вілейку Павятовую. З'яўляецца першы з ваенных цыклаў малюнкаў: "Заходняя Беларусь". Пра наступны год запісала: "У маі вяртанне з Вілейкі". І гэта ўсё. [...]

[...] пастараюся гэтую нішу запоўніць[...].

Матка пісала аб прыходзе рускіх. Адбылося гэта 17 верасня 1939 года. Калі суаднесці гэты факт з яе нататкамі, можна з вялікай дакладнасцю сцвярджаць, што (мы) прыехалі ў Вілейку каля 10 верасня. У той час там жыў брат бацькі **Валяр'ян** з жонкай **Вікторыяй** і на два тыдні маладзейшай за мяне дачкой **Марысяй**.

Сітуацыя бацькоў падчас 9-месячнага побыту ў тым мястэчку найлепш праілюструе далейшы праця г нататок: "Матку мужа [...] паклалі ў бальніцу, я яго брат скочыў на матацыкл і ўцёк. Не буду казаць пра ўсе падрабязнасці, а толькі аб факце, што было 45 градусаў марозу, а маё дзіця было заўсёды ў цяпле, сытае і, канешне, не за 300 рублёў у месяц, якія зарабляў Страмінскі, бо масла каштавала 60 рублёў за чвэрць кілі. Дзіця мела ўсё. Добра расло і развівалася. Мне людзі давалі дровы, а я іх вазіла на санках з адлегласці ў тры, а то і ў пяць кіламетраў. Хадзіла да багатых паралізаваных старых масажаваць ім ногі за талерку макароны для дзіцяці. У дзіцяці была і (велікодная) ёлачка, і падарункі, і кожны дзень паўлітра малака. Страмінскі радзіў мне запісацца полькай. Запісалася рускай. Калі пасля Вялікадня былі дэпартацыі, а за сцяной быў вобшук, ён імгненна спаліў мае метрыкі нараджэння ў Маскве і шлюбнае пасведчанне са Смаленска. У той перыяд майго жыцця я паставіла рэкорд, бо на працягу 9 месяцаў абыходзілася без панчох. Дзяўчынка была маленькай. Адзіную прасціну разрэзала напалам і зрабіла дзве. Страмінскі спаў на ложку з сеткай, сеннікам і аўчынай, а прыкрываўся коўдрай. А я на жалезных прутах, бо сяннік быў абсалютна пусты. Накрывалася палітонам. Ён выкладаў у гімназіі. Калі было слізка, як конь вазіла яго на санках. І многа можна было б аб гэтым гаварыць".

Мне матка пра тое расказвала. Пра цяжкую зіму 1939-1940 года, калі не хапала цёплай вопраткі, бо, кіруючыся меркаваннем бацькі, што вайна хутка скончыцца, забрала з сабой галоўным чынам яго і мае рэчы. [...] Ад тых часоў мела трывалую "памятку": сінія плямы на нагах, якія з'явіліся як вынік абмаражэння.

Сям'я бацькі не шмат магла дапамагчы, а неўзабаве і хутка выехала з Вілейкі. Дзякуючы дапамозе чужых людзей атрымалася абсталяваць наш невялічкі пакой патрэбнымі рэчамі. Найбольш клопату і сардэчнасці аказвала нам пані **Сарноўская**, матка маёй прыемніцы, якая звалася **Кізя**. Абедзве жылі непадалёк у двухпавярховым будынку. Наш пакой месціўся ў драўляным аднапавярховым дамку, у якім жыла яшчэ адна сям'я.

Ад дзвярэй і двух вокнаў цягнула холадам. Шыбы пакрываў тоўсты слой узораў, якія маляваў мароз. Паказваючы на іх, матка расказвала мне розныя казкі, дзеі якіх адбываліся ў заснежаных чароўных сцэнах.

У яе нататках была згадка аб масажаванні ног старым. Акрамя гэтага выразала ім урослыя (у пальцы) пазногці, абразала з пятаў зарагавелы эпідэрміс або прамывала апёкі ці пролежні вадой з воцатам. У параўнанні з колкай дроў ці перавозкай іх санкамі, калі тэмпература падала да 40 градусаў марозу, было гэта не найгоршым заняткам. Людзі давалі за гэта нешта з правізіі: яйка, кавалачак масла, малако, бульбу, крупы. Здаралася, што атрымлівалі талерку гарачага супу. Часамі дазвалялі сабе скарыстацца часткай прывезеных дроў.

Калі было слізка і бацька з вялікай цяжкасцю перамяшчаўся на мыліцах, трэба было правезці яго пасля ўрокаў са школы. Пасля сядалі абедаць. Не ведаю, што ў тыя часы гатавала мама, але памятаю яе чырвоныя, да крыві патрэсканыя на марозе рукі. Рукі, якімі яшчэ нядаўна стварала прасторавыя кампазіцыі і гіпсавыя скульптуры.

Мы жылі ў прымітыўных умовах. Каб справіць фізіялагічныя патрэбы ці прынесці вады, трэба было хадзіць на двор. У пакоі ,бліжэй да кухоннай пліты, адным бокам амаль дакранаючыся да ўваходу, стаяў мой дзіцячы ложачак. Далей пасцель маёй мамы, а пры сцяне, насупраць дзвярэй, ложак бацькі. Прыткнуты да яго кульгавы стол даўжэйшым бокам кранаўся акна. Менавіта тут, адвярнуўшыся ад пакоя, сядзеў бацька, пакрываючы аркушы паперы нейкімі незразумелымі мне рысункамі. Такім чынам і паўстаў цыкл "Заходняя Беларусь".

Напэўна, за гэтым самым сталом бацька таксама займаўся праектаваннем дэкарацый, пра якія пазней напісаў **Юльян Пшыбась** (паэт, перакладчык, навеліст, сябар Страмінскага, А.М.): "...ён адзін у тым найгоршым для мастацтва часе мог даць прыклад жывапісу, які патрэбны быў прапагандзе. **Путрамант** (польскі паэт, у згаданы час працаваў у вілейскай абласной газеце "Вілейская праўда", А.М.) згадвае ў сваім "Паўстагоддзі" як Страмінскі перамяніў на свята 1 мая 1940 года беднае шэрае мястэчка Вілейку ў каляровую феерыю, у тэатр прасторавых жывапісных кампазіцый. Бо тады ўлады развязалі яму рукі ў аздабленні горада.

Вясной бацькі паклапаціліся пра вяртанне ў Лодзь. Не ведаю прычын таго рашэння. Што цягнула іх у акупаваны горад? Хацелі быць там, дзе пакінулі свой мастакоўскі плён? Наважыліся абараніць тыя працы перад знішчэннем? А можа, памылкова меркавалі, што бацька знойдзе там лепшыя ўмовы для творчай дзейнасці?

Калі бацька спаліў дакументы мамы, якія пацвярджалі яе расійскае паходжанне, і нагаворваў, каб у савецкіх установах заяўляла польскую нацыянальнасць, можны прыпусціць, што ініцыятыва вяртання зыходзіла ад яго.

Напэўна, канчатковаму рашэнню папярэднічалі доўгія размовы і ваганні. Для мамы прыняць яго было яшчэ цяжэй. Бо была расіянкай, польскай грамадзянкай, а каб атрымаць згоду ўладаў на выезд, трэба было заявіць пра нямецкае паходжанне яе бацькі.

З дакументаў мелі толькі пасведчанне аб шлюбе, заключанага ў Рызе ў 1924 годзе. Ён і дазволіў бацькам пасля дзевяці месяцаў, якія яны правялі ў Вілейцы, вярнуцца ў акупаваную Польшчу. Пазней, на падставе гэтага пасведчання, ва ўсіх акупацыйных дакументах, месцам нараджэння маткі пазначалася Рыга.

Не пыталася, якой дарогай ехалі. Памятаю назвы двух мястэчак: Маладзечна і Белай Падляскі, якія згадваліся падчас размоў аб тым падарожжы. Вярталіся вагонамі для скаціны. Было адносна свабодна. Хапіла месца, каб спаць на падлозе. Для мяне матка вымасціла пасцель на чамадане ў куце вагона.

Адразу пасля пераезду мяжы ўсіх пасажыраў і іх адзенне апрацавалі ад вошай. Далейшая паездка не была хутчэйшай. Уся наша тройка перанесла не цяжкасці добра. У сярэдзіне мая 1940 года мы зноў былі ў Лодзі.

**Ніка СТРАМІНСКАЯ,**
**"Каханне, мастацтва і нянавісць".**
**Варшава, 1991.**
**Пераклад "РГ".**

Дзякуй Вілейскаму краязнаўчаму музею і яе старшаму навуковаму супрацоўніку **Вользе Коласавай** за прадастаўленыя матэрыялы.

## КАЛЯНДАР

**24 студзеня.** 75 гадоў назад (1939) у Мінску заснаваная і адкрытая Дзяржаўная карцінная галерэя (у 1957 – 1993 гг. – Дзяржаўны мастацкі музей, з 1993 года – Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь).

***

**25 студзеня.** 145 гадоў з дня нараджэння Адама Гілярыя Гурыновіча (1869 – 1894), беларускага паэта-дэмакрата, фалькларыста. Нарадзіўся ў Кавальках Вілейскага павета Віленскай губерні, цяпер Мядзельскі раён. Род Гурыновічаў вядомы з 15 стагоддзя (герб "Праўдзіц"). Далёкія продкі Адама Гурыновіча – па бацькавай лініі – былі выхадцамі з Арабіі, татарамі-мусульманамі і мелі прозвішча Гурын. Маці паходзіла з гетманскага роду Сяняўскіх. Рана асірацеў (бацька памёр, калі яму было сем гадоў). Скончыў Віленскае рэальнае вучылішча (1887), вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце (1887 - 1893). У 1893 годзе за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны і паўгода праседзеў у Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу. Па стану здароўя выпушчаны з турмы, аднак пакараны ссылкай пад нагляд паліцыі ў фальварак Крыстынопаль каля Смаргоні. Пісаў на беларускай, польскай, рускай мовах. Выступаў таксама як перакладчык, этнограф, фалькларыст. Вялікая частка спадчыны Адама Гурыновіча загінула: 8 сшыткаў было канфіскавана паліцыяй, іншыя матэрыялы пасля арышту пісьменніка знішчаны братам. Упершыню творы Адама Гурыновіча апублікаваныя ў 1921 годзе ў газеце "Беларускі звон". Памёр у 1894 годзе ад чорнай воспы, якую набыў у турме. У гонар Адама Гурыновіча ў Вілейцы названая вуліца, а ў Мядзеле – завулак.

***

**28 студзеня.** 95 гадоў з дня нараджэння Паўла Кармуніна (1919 – 2002), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

***

**29 студзеня.** 130 гадоў з дня нараджэння Антона Луцкевіча (1884 – 1942), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, публіцыста, літаратурнага крытыка.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Любові Бацвінік (1914 – 1980), дыктара Беларускага радыё, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

***

**Студзень. 1961 год.** Утворанае Іжанскае лясніцтва.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Сяргей Карзей: **“Каб мне доўгія валасы і крыху крывыя ногі – я быў бы непаўторным”**

**МАЛАДЗЕЧНА. Сяргей Карзей, акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра, у студзені адзначыў сваё 55-годдзе.**

З гэтай нагоды і адбылася наша з ім сустрэча. Але калі б нагоды не было, яе трэба было б прыдумаць. Таму што не кожны дзень можна ўбачыць акцёра ў ролі сябе самога: без грыму і сцэнарыя.

Сяргея Карзея добра ведаюць у Маладзечне. Ведаюць тэатралы, таму што Сяргей працуе ў тэатры ўжо 15 год. І за гэты час ім сыграна шмат роляў, сярод якіх Табу з “Прынца Мамабука”, Максім з “На другі дзень Сёмухі”, Салянік з “Радавых”, Канферансье з “Бывай, Канферансье!” і шмат-шмат іншых. На Дзень настаўніка, энергетыка, будаўніка Сяргей – нязменны вядучы ўрачыстасцяў. Яго ведаюць як вядучага фестываляў і конкурсаў. Яго ведаюць шматлікія выпускнікі Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа, пазнаюць прадаўшчыцы ў магазіне і на рынку. Ці хітруе Сяргей, калі гаворыць, што яго такая павышаная ўвага не хвалюе, не ведаю. Але сумневаў у сваёй шчырасці наш госць не выклікаў.

Сустрэліся мы з Сяргеем у грымёрцы, сустрэў мяне малады мужчына ў модных туфлях, джынсах і белай кофце. “Няўжо, 55?” – падумала я, а ўслых усё ж такі спытала:

**– Як адчувае сябе 55-гадовы Сяргей Карзей? Чым адрозніваецца ад 54-гадовага?**

– Не, цяпер адчування ўзросту няма. Яшчэ пяць гадоў таму было такое: аааааа, праз 10 год пенсія! Што рабіць? Як жыць далей? А цяпер быццам узросту і няма. Адчуў толькі, што юбілей, дзякуючы бенефісу: “Зноў, Канферансье?! або Сон у зімовую ноч”. 18 снежня прыйшла ідэя зрабіць капуснік, пісаўся сцэнар, рыхтаваліся фотадымкі, музыка, песні…

**– Усё задуманае ўдалося здзейсніць?**

– Нават болей, чым усё. У зале былі мае родныя людзі, сябры, аднакурснікі, былыя калегі. Вельмі прыемна было знаходзіцца на сцэне. Хаця сына адзінага не было. Ён жыве ў Мінску, я яму патэлефанаваў, ён сказаў: “Які юбілей? Я ж цябе першага студзеня ўжо павіншаваў!” Канешне, я жартую. Арсень у гэты дзень працаваў.

**– У вас дзень нараджэння першага студзеня, акурат на Новы год?**

– Сказаць па праўдзе, я не ведаю, калі ў мяне дзень нараджэння. Мая маці казала, што я нарадзіўся за некалькі дзён да Новага года. Але хто рэгістраваў дзень у дзень? Мама расказвала, што бацька паехаў рэгістраваць 5 студзеня. А жанчына тая, што выдавала метрыку, сказала: ”А чаго яму будзе год наперад ісці? Хай будзе першага”. Але я з дзяцінства адчуваў, што мой дзень нараджэння першага студзеня нікому не патрэбны. Бывала, некаторыя толькі 13 студзеня ўспаміналі, што мяне трэба павіншаваць. Але ў мяне правіла, на свой дзень нараджэння не працаваць. Таму ў ніякіх “навагодніх халтурах” я не ўдзельнічаю. Не люблю гэтага.

### “Новая зямля” Якуба Коласа – энцыклапедыя майго дзяцінства

**– Распавядзіце пра сваю сям’ю. Дзе нарадзіліся, дзе вучыліся?**

– Нарадзіўся я ў простай сялянскай сям’і ў Селеўцах. Я быў апошнім, шостым, дзіцем. Дзве дзяўчынкі, што нарадзіліся да мяне, на жаль, рана памерлі. У сям’і выхоўвалі трох хлопцаў, вядома, бацькі хацелі дзяўчынку, а нарадзіўся я. Жылося нам няпроста, нават бедна. Але ўсё, што мелі ў гаспадарцы, рабілі сваімі рукамі. У магазіне куплялі толькі соль і цукар. Нават хлеб маці пякла свой, у печы.

Мяне пытаюцца журналісты, якая кніга ў мяне настольная або любімая. Я заўсёды адказваю, што “Новая зямля” Якуба Коласа. Усё тое, пра што піша Якуб Колас, я магу пераказаць малюнкамі з уласнага жыцця: і як на полі працавалі, і як святы адзначалі, і як нядзельны сняданак рыхтавалі. У мяне нават быў і свой “дзядзька Антось” – сястра бацькі, цётка Стэфка. Памятаю, як яна мне спявала беларускія песні або расказвала казкі. Я ляжаў на печы, гладзіў ката і слухаў цётку.

**– У школе вучыліся добра?**

– Я з дзяцінства ўмеў сам сябе кантраляваць. І старэйшы брат, Станіслаў, у нас з ім была розніца ва ўзросце 11 гадоў, заўсёды быў аўтарытэтам. Я думаў: як так, прыедзе брат (а ён ужо жыў асобна, жанаты, калі я яшчэ быў школьнікам), а ў мяне тройка ў дзённіку.

**– Тады пытанне ўзнікае само: адкуль у простага сялянскага хлопчыка здольнасці да акцёрства?**

– Мама расказвала, што яе бацька майстраваў скрыпкі, сам добра ўмеў іграць. Я на гарышчы ў нашым доме знайшоў адну. Магчыма, ад дзеда. А ў класе дзясятым упершыню пабываў у тэатры. Мяне ўразіла нават не само дзеянне на сцэне (ішоў спектакль “Матухна Кураж і яе дзеці” па творы Бертольда Брэхта), а сама атмасфера: гукі, святло, касцюмы. Пасля гэтага далейшы шлях быў вырашаны: толькі ў артысты! На іспытах у інстытут культуры чытаў байку Кандрата Крапівы “Ехаў дзедка на кірмаш”. Камісія хапалася за галаву, гаварылі: “Ну колькі можна?!”, але калі я чытаў, смяяліся. Верш чытаў Сяргея Астравога “Першае слова дзіця сказала: “Мама!”. Мяне спынілі і запыталіся: “У вас маці ёсць? Яна жывая? А цяпер уявіце, што яе не стала… І чытайце”. Мяне спынілі, бо слёзы было стрымаць немагчыма.

**– Гады вучобы запомніліся як лепшыя?**

– Безумоўна. І ўсіх сапраўдных сяброў сустрэў менавіта ў інстытуце. З многімі сябруем і цяпер, аднакурснікі прыязджалі і на мой бенефіс. І каханне першае было там. Са мной вучылася **Зоя Белахвосцік** (заслужаная артыстка Беларусі, актрыса тэатра імя Янкі Купалы – аўт.), з ёй у мяне быў прыгожы юнацкі раман. На жаль, на другім курсе інстытута мы расталіся. І акцёрская школа ў нас была моцная. Давялося быць знаёмым і працаваць з многімі сапраўды таленавітымі людзьмі.

**– Свой лёс назаўсёды звязалі з Маладзечнам?**

– Так, сюды быў накіраваны па размеркаванні. Працаваў у народным тэатры, мастацкім кіраўніком у прафесійна-тэхнічным каледжы. Пасля нараджэння сына на працяглы час адышоў ад акцёрскай прафесіі, але ад лёсу нікуды не дзенешся.



Сяргей Карзей, акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра, у ролі канферансье ў спектаклі “Бывай, канферансье!”.

### З французскімі манерамі можна іграць і Яўрэя

**– За 15 год працы ў тэатры не знікла адчуванне таямніцы тэатра? Ці цяпер гэта проста месца працы?**

– Адчуванне рамяства бывае, калі працяглы час няма новых роляў, новых работ і спектакляў. Тады прыходзіш у тэатр, садзішся ў крэсла, каб накласці грым, і такі цяжар, такая стомленасць. Але як толькі выходзіш на сцэну, адразу забываеш, што гэту ролю іграеш ужо ў соты раз. І гэта не для “чырвонага слоўца”. Паверце, так яно і ёсць.

**– Цяпер працуеце над новай роляй?**

– Так. **Адрыян Барткевіч** працуе над пастаноўкай новага спектакля па п’есе Міхаіла Угарава “Смерць Ілы Ільіча”. У мяне там роля невялікая, але вельмі цікавая. П’еса гэта – мікс з твораў Івана Ганчарова.

**– У якасці гледача калі апошні раз былі ў тэатры?**

– Нядаўна. Глядзеў п’есу “Нязваны госць”. Я потым расказваў знаёмым: “Уяўляеце, я быў у тэатры! Я глядзеў п’есу! Гэта цудоўна”. Мне рэдка выпадае хадзіць на мерапрыемствы, нават неяк нязвыкла, што спіны наперадзе. Але калі прыходжу, паводжу сябе як нармальны, ці ненармальны, глядач. Нікога не крытыкую.

**– Што значыць ненармальны?**

– Мяне дзеянне можа захапіць так, што я забываюся на ўсё. Так было, калі я першы раз трапіў на спектакль “Камедыя”. Я смяяўся так, што мой сябар потым прызнаваўся, што яму было сорамна за мяне. Тады так уразіла роля яўрэя. Я думаў, што ніколі так бы не сыграў, але менавіта ролю Яўрэя я і іграю. У мінулым годзе на фестывалі ў Мікалаеве атрымаў за яе дыплом. Член журы прафесар з Кіеўскага ўніверсітэта мастацтваў сказала тады: “Як вы, больш падобны да француза, змаглі так сыграць ролю яўрэя і пераканаць нас, карэнных херсонцаў і адэсітаў, што вы сапраўдны”.

### Я ўсё ў жыцці рабіў са спазненнямі

**– Якую ролю яшчэ не сыгралі?**

– Я ніколі не марыў пра нейкую канкрэтную ролю. Рамэа не хацеў іграць. Калі б давялося, то сыграў бы 55-гадовага чалавека, якому пашчасціла спыніцца, каб азірнуцца назад, у сваё мінулае, і зразумець, што ж я зрабіў няправільна.

**– А ёсць правільны адказ на гэтае пытанне?**

– Вось я б хацеў гэта зразумець. У жыцці я ўсё рабіў позна. Была магчымасць паехаць працаваць у Расію, думаў, што паспею, потым адмовіўся ад прапановы працаваць у Польшчы. Я нават ажаніўся са спазненнем, у 27 гадоў. З часам я навучыўся пра гэта не думаць, сёння ні аб чым не шкадую. Ратуе прафесія. Адзін з самых любімых маіх спектакляў – спектакль “Старая зайчыха” ў пастаноўцы **Алега Чэчанева**. У ім я пражываю жыццё. І быццам пазбаўляюся ад таго, што грызе ўнутры. Пасля такіх спектакляў хочацца проста сесці і нервова выкурыць цыгарэту. Такое спусташэнне.

Сяргей адводзіць вочы і змаўкае…

Потым прызнаецца, што бывалі ў яго творчай біяграфіі спектаклі, якія цяжка было іграць і таму, што не да канца разумеў

іх, або проста самому было нецікава. Але ўсе ролі дарагія па-свойму. Прапаную змяніць тэму.

**– Раскажыце пра які-небудзь смешны выпадак. Ці разыгрывалі адзін аднаго падчас спектакля?**

– Ой, такія выпадкі здараюцца пастаянна. Ігралі дзіцячы спектакль у Вілейцы, на першым радзе сядзела дзяўчынка. Не ведаю як, але яна звалілася пад крэсла. Мы іграем, а перад сабой бачым яе сандалікі, што тырчаць угору. Стрымацца немагчыма! У такіх выпадках, я да болю кусаю губу. Была гісторыя, дзе я па сюжэце, азіраючыся назад, спускаюся ў глядзельную залу па прыступках. Адкуль жа я мог ведаць, што ў адзін цудоўны дзень нехта прыбраў гэтыя прыступкі? Яшчэ магу прыгадаць гісторыю, якая здарылася з маім калегам Алегам Чэчаневым. Ён іграў спектакль "Верная жонка". Па сюжэце, Алег той самы верны муж. Ён звяртаецца да сваёй жонкі, Алены Рахмангулавай: "Пакажы хоць кроплю жалю!", але замест гэтага, у яго вырываецца: "Пакажы хоць жоплю кралю!"

І розыгрышы здараюцца. На рэпетыцыі спектакля "Радавыя" **Барыс Донін** замест вады, якую па сюжэце мы п' ём, у пляшкі наліў гарэлкі. Акцёр, што іграў Адуванчыка, быў увогуле яшчэ школьнікам. Трэба было бачыць яго вочы.

## Па выхадных я іграю ролю… Абломава

**– Які Сяргей Карзей па-за тэатрам? Апішыце свой тыповы выхадны дзень.**

– Выхадны дзень пачынаецца з кубачка кавы. Вельмі люблю такія дні, калі раніцай нікуды не трэба спяшацца. Такія імгненні ранішняй дрымоты бясцэнныя. Гляджу тэлевізар, у асноўным спорт, сяджу ў камп'ютары. Гуляю ў гульні. 271 узровень у гульні – гэта вам не хухры-мухры. Увогуле, такі Абломаў, ва ўтульным дамашнім адзенні. Каб былі тапкі з зайцамі, абавязкова хадзіў бы ў іх.

Акрамя таго, вельмі люблю пакорпацца ў агародзе, збіраць грыбы, ягады. Утульнасць люблю. У мяне вы ніколі не ўбачыце нямытага посуду, бруду, хоць жыву адзін.

**– А сям'я?**

– Мая сям'я – гэта сын Арсень. Ён ужо самастойны, яму 24 гады, жыве ў Мінску, закончыў БДУ па спецыяльнасці менеджар-эканаміст. Адносіны з сынам у нас сяброўскія. Не скажу, каб мы з ім стэлефаноўваліся кожны дзень, але адчуваем падтрымку адзін аднаго. Характар у сына, праўда, гэта мой у дзявятай ступені. Авен, што з яго ўзяць?

## Не люблю чорныя калготкі на нагах жанчын

Размова з Сяргеем Карзеем зацягнулася больш, чым на дзве гадзіны. У канцы сустрэчы прапаную майму суразмоўцу перайсці да бліц-апытання.

**– Як вы падтрымліваеце выдатную спартыўную форму?**

– Сакрэт вельмі просты – я 25 гадоў не карыстаюся грамадскім транспартам. У любую частку горада, у любое надвор'е хаджу пешшу. Трэба было б і плаваннем заняцца, але як-небудзь пазней.

**– Ваш ідэал жанчыны?**

– Для мяне эталон прыгажосці – мая былая жонка. А так, абсалютна не мае значэння бландзінка ці брунетка, тоўсценькая ці худзенькая, галоўнае, каб не ў чорных капронавых калготках. Я не ведаю чаму, але яны мне здаюцца непрыгожымі. А калі вам мужчына будзе гаварыць, што для яго не існуе эталону мужчынскай прыгажосці, не верце. Для мяне такі эталон: мужчына з доўгімі чорнымі валасамі і крыху крываватымі нагамі. Здаецца, каб я так выглядаў, я быў бы сэкс-сімвалам.

**– Калі б вы не сталі акцёрам, кім бы былі?**

– Вельмі падабаецца быць канферансье. А калі кардынальна нешта мяняць, то, напэўна, вучыўся б на менеджара. Мне здаецца, з мяне б атрымаўся цудоўны кіраўнік.

**– Вы пакуль чалавек свабодны. А можа так здарыцца, што яшчэ пойдзеце пад вянец?**

– А хто ведае, што нам наканавана наперадзе? Магчыма, жанчыну свайго жыцця я яшчэ сустрэну, можа, і за дзень да смерці. Можа, я вярнуся да свайго эталона прыгажосці.

**– А як жа выраз, што ў адну раку нельга ўступіць двойчы?**

– У ваду адну і тую ж нельга, а рака назаўсёды застанецца той самай ракой.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечана Сяргеем Карзеем.**

**Даведка "РГ". Сяргей Карзей.** Нарадзіўся 1 студзеня 1959 года ў вёсцы Селеўцы, што на Маладзечаншчыне. Выхоўваўся ў шматдзетнай сям'і. Самы малодшы з чатырох братоў.
У 1980 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут культуры па спецыяльнасці "Рэжысура народнага тэатра". Працаваў мастацкім кіраўніком у прафесійна-тэхнічным каледжы ў Маладзечне. Іграў у народным тэатры. З 1999 года – у складзе трупы Мінскага абласнога драматычнага тэатра.
Сыграў за 80 роляў. Сярод якіх: Епіскап "Пачатак" Б.Васільева, Давід "Камедыя" У.Рудава, канферансье "Бывай, канферансье!" Г. Горына, Рамуальд "Аўчары" У.Лапціка, Пігдэн "13" Дж.Куні, Цімафей "Сямейны партрэт з невядомым" С.Лабазёраў, Міша "Старая зайчыха" У.Каляды і інш. Сямейнае становішча: не жанаты, сын Арсень.



Разам з маці (уверсе, у цэнтры).





Студэнцкія гады.



У ролі Давіда ў спектаклі "Камедыя" Сяргея Карзея не пазнаў і ўласны сын.



Сяргей Карзей – студэнт інстытута культуры.



Вядучы мерапрыемстваў.



Фота Наталлі ТУР.

Падарунак на 55-годдзе.

ПЕРСПЕКТЫВЫ

# Спартыўны сезон 2014

## Катаемся на каньках і складаем планы на футбол

**МАЛАДЗЕЧНА. Скончыліся навагоднія канікулы. Самы час задаць пытанне наконт таго, што чакае маладзечанскіх аматараў спорту ў 2014 годзе.**

Па-першае, футбол. З канца мінулага года не змаўкалі размовы пра тое, што калі клубу "Маладзечна-2013" не выдзеляць грошы, то кіраўніцтва адмовіцца ад удзелу ў сезоне 2014. З гэтым пытаннем мы звярнуліся да дырэктара клуба **Аляксандра Любанца.**

– Пакуль магу сказаць толькі адно: каманда ў другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе ўдзельнічаць будзе. Цяпер ідзе актыўная падрыхтоўка, мы працуем, шукаем грошы. Што датычыцца складу каманды на гэты сезон, патэлефануйце ў сакавіку.

З гэтым жа пытаннем, што чакае заўзятараў Маладзечна ў 2014 годзе, мы звярнуліся да намесніка начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалая Шрымфа**:

– У футбольным сезоне 2014 года ніякіх нечаканасцяў не будзе. Каманда Аляксандра Гармазы будзе ўдзельнічаць у чэмпіянаце вобласці, а клуб "Маладзечна-2013" будзе прадстаўляць горад у другой лізе чэмпіянату краіны.

**– На фінансавую падтрымку райвыканкама клуб можа разлічваць?**



Мінулагоднія спаборніцтвы па лыжных гонках.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

– Клуб фінансаваўся і працягвае фінансавацца адпаведна ўказу №191 (Аб аказанні падтрымкі арганізацыям фізічнай культуры і спорту).

Цяпер мы шукаем прадпрыемства, якое будзе вызвалена ад падаткаў на карысць спонсарскай дапамогі клубу.

**– Ці ведаеце вы аб тым, што праводзіцца конкурс на новую эмблему клуба?**

– Новая эмблема? Ну гэта хлопцы з клуба праводзяць гэты конкурс. А што, патрэбная справа.

**– Якімі спартыўнымі падзеямі, акрамя футбольных, запомніцца 2014?**

– Год – гэта вельмі працяглы тэрмін. Адзін толькі студзень запомніцца міжнароднымі спаборніцтвамі па ўшу, што пройдуць з 23 па 26 студзеня ў спартыўна-забаўляльным цэнтры. Фінал вобласці па шматбор'і адбудзецца ў Маладзечне на гэтым тыдні, і міжнародныя спаборніцтвы па футболе на снезе пройдуць у Чысці 23-25 студзеня. Нашыя футбалісты будуць супрацьстаяць спартсменам з Польшчы.

**– Нарэшце ўсталявалася зімовае надвор'е, ці значыць гэта, што будуць залівацца каткі?**

– Каткі ўжо заліваюцца. Да выхадных плануем закончыць. У гэтым годзе іх будзе значна меней, чым у мінулым. Зальём каткі на гарадскім стадыёне, на стадыёне гарадошнага спорту, на некаторых школьных стадыёнах. У мінулым годзе не паспелі мы заліць каткі, як яны растаялі. Дарма выдаткоўвалі і час, і грошы, і ваду. Ды і маладзечанцы аддаюць перавагу спартыўна-забаўляльнаму цэнтру. Пагадзіцеся, прыемней распранацца ў цяпле і ведаць, што твае рэчы пад надзейным наглядам.

**Наталля ТУР.**

МІНІ-ФУТБОЛ

### Аднавіліся гульні чэмпіянату

**МЯДЗЕЛ.** Аднавіліся гульні чэмпіянату раёна па міні-футболе. Тры гульні адбыліся 14 студзеня. Каманда райваенкамата прайграла індывідуальным прадпрымальнікам 1:7, "Зубраня" перамагла ЖКГ 5:0, гульцы з Нарацкага Савета саступілі камандзе прадпрыемства меліярацыйных сістэм 3:4.

У суботу, 18 студзеня, адбылася адна гульня. З Пастаў прывезлі дзіцячую каманду, і яна саступіла "Юніёру" 2:12.

### За адзіную пуцёўку

**МЯДЗЕЛ.** 25 і 26 студзеня ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры пройдуць занальныя гульні чэмпіянату вобласці па міні-футболе сярод ветэранаў. Чакаецца ўдзел чатырох камандаў: з Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Смалявіцкага раёнаў.

У фінал чэмпіянату вобласці трапіць толькі адна каманда – пераможца занальнага адбору. Падобныя спаборніцтвы пройдуць у Мядзеле ўпершыню, паведаміў дырэктар цэнтра **Міхаіл Чаркасаў.**

### Правялі таварыскія гульні

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 19 студзеня, адбыліся таварыскія матчы па міні-футболе паміж камандамі ветэранаў Мядзельскага і Вілейскага раёнаў.

Адразу ў зале Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра згулялі каманды "Мядзел" і "Вілейка-2". Матч завяршыўся з лікам 9:3 на карысць віляйчан, хоць адразу ішла больш-менш роўная гульня.

Потым памераліся сіламі дзве каманды з Вілейкі. "Вілейка-1" выйграла 4:2.

Напрыканцы матча "Вілейка-2" прайгравала 3:1, і каманда пайшла ва-банк: варатар пайшоў у атаку. Адразу здолелі адквітаць гол, аднак неўзабаве атрымалі гол у пустыя вароты.

У матчы з Вілейкай-1 мядзяльчане згулялі больш актыўна, і перавага гасцей была ненастолькі заўважнай. Лік сустрэчы 5:3 на карысць віляйчан.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Гуляюць каманды Вілейкі і Мядзела.

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Увесь мінулы тыдзень чытачы сайта "Рэгіянальнай газеты" абмяркоўвалі на сайце пытанне аб новай эмблеме футбольнага клуба "Маладзечна".**

Які конкурс?!!! Вы з глузду з'ехалі?! Эмблема каманды ці клуба – гэта ГІСТОРЫЯ. Гэта перамогі пры Карпенку тады і перамогі пры Гармазе цяпер. Гэта, выбачайце, патрыятызм МАЛАДЗЕЧАНСКІХ футбалістаў. А сёння немаладзечанец Любанец, заўтра немаладзечанец Хтоведаехто. І мы будзем ламаць нашу гісторыю і нашу эмблему кожны раз, калі камусьці не з нашых гэтага захочацца?! Я прашу рэдактара "РГ" спыніць гэты конкурс. Я ўпэўнены, што гэта здзек з маладзечанскага футбола. *Сяргей Зянько.*

Вы занадта дрэнна дасведчаныя па пытанні эмблемы клуба: зараз выкарыстоўваецца не эмблема часоў вышэйназваных людзей, а зменена, непрафесійная версія, якая выкарыстана, у прыватнасці, на сайце клуба. У галасаванні будзе ўдзельнічаць эмблема, пра якую Вы кажаце, толькі ў адрэдагаваным выглядзе. Многія падтрымліваюць яе, і я ў тым ліку, але ці перамога яна ў галасаванні, пакажа час. *Дзмітры.*

Сяргей Зянько, не хвалюйся так моцна. Няхай моладзь пасядзіць і што-небудзь намалюе. Творчасць яшчэ нікому не перашкаджала. Вось, напрыклад, цяперашняя назва клуба з лічбамі 2013. Мы з табою разумеем, што яна вечнай не будзе. Так і нейкая новая эмблема таксама вечнай не будзе. Дарэчы, звяртаюся, да хлопцаў-мастакоў. Год утварэння прафесійнага футбольнага клуба ў нашым горадзе – гэта 1989 год, звязаны з імёнамі Генадзя Карпенкі і Сяргея Бароўскага. Пасля вайны і ў шасцідзясятых футбол быў аматарскі. *Сяргей Гайковіч.*

Сяргей Гайковіч, да 1989 праводзіўся такі ж чэмпіянат БССР, як і пасля, і ў 1949-м ад нашага тагачаснага абласнога цэнтра ўпершыню на чэмпіянаце краіны выступіла наша каманда. Фармат турніру мяняўся, але ад імя горада стабільна ўдзельнічала каманда з тых самых часоў. Большасць клубаў Беларусі шануе сваю гісторыю ў чэмпіянатах БССР, яркі прыклад мінскае "Тарпеда", толькі ў нас усё прывязалі да найбольш камерцыйнага і прафесійнага стабільнага калектыву, што адназначна павінна быць выпраўлена. *Дзмітры.*

Сяргей, Вы не маеце рацыі. Крытыкаваць мы ўсе здольныя. Але што зрабіў маладзечанец Гармаза (дзякуй яму і яго хлопцам за мінулыя сезоны і перамогі і за тое, што яны ў свой час зрабілі, а можа, яшчэ і зробяць дзеля нашага клуба), каб яго каманда здолела прыняць удзел у рэспубліканскіх спаборніцтвах у мінулым сезоне? Нічога! А "немаладзечанец" Любанец і Ко- здолелі заявіцца і адгуляць цэлы сезон. Калі прыходзілі Акшаеў, Румбуціс і іншыя, змянялі назву, эмблему і г.д. – маўчалі, усё было добра! Дык чаму зараз столькі крыткі? Новай эмблеме, на мой погляд, трэба ўлічваць і мінулае, і цяперашні час. І ўсё гэта неяк як-небудзь стылістычна апрацавана. І абавязкова на роднай мове. *Аматар.*

Пав. Сяргей Зянько, несумненна, эмблема клуба – гэта гісторыя! Вы пішаце, што гэта адлюстраванне перамог пры Карпенку раней, і пры Гармазе цяпер. Вы хоць у курсе, якая эмблема была пры Карпенку? Калі не, то распавяду Вам. Эмблема пры Карпенку раней і пры Гармазе некалькі гадоў таму гэта дзве розныя рэчы! Вядома, мяняць эмблему кардынальна – гэта глупства. Хто вінаваты, што ў горадзе не знайшлося маладзечанцаў, якія б пачалі займацца адраджэннем нашага з Вамі клуба? Чаму Вы гэтым не заняліся? Пісаць каментары, не мяжкі вярнуць! Ніхто ж не перашкаджаў рабіць гэта і Гармазе. Вось Любанец і Ко гэтым заняліся, і трэба пажадаць ім поспехаў у гэтым. А тое, што ён немаладзечанец… Вы ўспомніце Чэлсі і Абрамовіча, якога ненавідзяць заўзятары арыстакратаў за тое, што ён не лонданец. Час ужо завязваць крытыкаваць усё, што робіць Любанец і Ко. Святы скончыліся, галава павінна быць ужо цвярозай. *Аляксей Міхайлавіч.*

КОНКУРСЫ

## Свята снегу разам з дранікамі

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 18 студзеня, у СШ №3 Вілейкі прайшло спартыўнае свята "Зімовы карнавал". Прымеркаванае яно было да Сусветнага дня снегу.**

Падчас адкрыцця ў актавай зале вясёлыя зайчыкі правялі снежную віктарыну.

– Далей свята працягвалася на школьным стадыёне, – паведаміла намеснік дырэктара **Тамара Томкавіч**. – Для дзяцей працавалі разнастайныя пляцоўкі: лыжныя гонкі, снежны боўлінг, язда на санках, снежны велікан. Кульмінацыяй свята стаў кулінарны конкурс "Дранікшоу", а самым запамінальным – конкурс "Паглынальнікі дранікаў". На закрыцці свята снегу самых хуткіх, спрытных, крэатыўных узнагародзілі дыпломамі і падарункамі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Тамарай ТОМКАВІЧ.

Момант свята.

ФУТБОЛ

# Конкурс на эмблему футбольнага клуба працягваецца










Тры свае работы на конкурс прадставіў Юры Пігаеў, горад Гусеў, Калінінградская вобласць, Расія.

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс на эмблему будзе доўжыцца да 1 лютага. Варыянт эмблемы-пераможцы будзе лічыцца афіцыйным і выкарыстоўвацца на сайце клуба, білетах і абанементах, а таксама на форме гульцоў.**

Заўзятар **Дзмітры Рухлевіч** узяў на сябе абавязкі па арганізацыі гэтага конкурсу і распрацаваў умовы да яго. Патрабаванняў да новай эмблемы няшмат. Тэкст на эмблеме можа быць на беларускай ці на рускай мове. На эмблеме, па жаданні, можна указаць год заснавання клуба – 1949. Ну і, вядома, эскіз павінен быць зроблены высокай якасці. Усе ахвотныя прыняць удзел у конкурсе могуць адпраўляць свае работы на электронны адрас: **skif-1991@mail.ru** да 1 лютага.

Пра конкурс эмблемаў для клуба "Маладзечна" ведаюць і за межамі нашай краіны. **Юры Пігаеў**, жыхар горада Гусева, што ў Калінінградскай вобласці, таксама даслаў свае работы на конкурс.

**– Юры, як вы даведаліся пра конкурс?**

– Выпадкова ўбачыў умовы конкурсу на адным з сайтаў, таксама вырашыў паўдзельнічаць.

**– Я звярнула ўвагу, што надпіс на эмблеме вы зрабілі на беларускай мове. Вы ведаеце беларускую мову?**

– Не, не ведаю. Я рабіў сваю эмблему, гледзячы на старую эмблему клуба, а яна была на беларускай мове. А хіба можа быць эмблема беларускага клуба на якой іншай мове?



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

РЭПЕРТУАР

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на студзень 2014 года**

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Бывай, канферансье!"** (спектакль-канцэрт), Рыгор Горын
25 студзеня 17.00

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
29 студзеня 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Нязваны госць"** (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава
30 студзеня 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Экшн, прыгоды **"Геракл: Пачатак легенды"**, 3D (ЗША, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16)
24 студзеня – 21.00
25, 26 студзеня – 18.30, 21.00
27 студзеня – 18.30
28-30 студзеня – 21.00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Тарзан"**, 3D (Германія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
24 студзеня – 17.00
25 студзеня – 14.30
26 студзеня – 14.00
28 студзеня – 19.00
30 студзеня – 19.00
Кошт білета – 25 000-30 000 рублёў

Камедыя **"Сябры сяброў"** (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 студзеня – 19.00
25 студзеня – 16.30
27 студзеня – 21.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Халоднае сэрца"**, 3D (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
Акцыя! Кошты зніжаны: толькі 25 студзеня – у 11.00 (25 000 рублёў)
26 студзеня – 16.00
29 студзеня – 18.30
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

**Да 70-х угодкаў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне**

Ваенная драма **"Сталінград"**, 3D (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 студзеня – 16.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама, камедыя **"Па прыкметах сумяшчальнасці"** (ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
24 студзеня – 21.30
25 студзеня – 17.30, 19.30
26, 27 студзеня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Макс і яго кампанія"** (Францыя, 2007, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25, 26 студзеня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер **"Сайлент Хіл 2"** (Францыя, ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, які за 16)
24 студзеня – 17.30, 19.30
25 студзеня – 21.30
26 студзеня – 17.30, 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя **"10 крокаў да поспеху"** (ЗША, 2006, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 студзеня – 19.30
29 студзеня – 21.30
30 студзеня – 19.30
Кошт білета – 35 000

Баявік **"Бяжы"** (ЗША, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16)
28 студзеня – 21.30
29 студзеня – 19.30
30 студзеня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Залатая табакерка"** (жартаўлівая казка), А.Плютава
26 студзеня – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ВЫШУК

# Знікла 5 снежня

**АШМЯНЫ. Ашмянскі райаддзел міліцыі шукае зніклую Вараб'ёву Валянціну Міхайлаўну.**



5 снежня каля васьмі гадзін пайшла з дому, і дагэтуль яе месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 30 гадоў, рост каля 160-165 сантыметраў, хударлявага целаскладу. Твар круглы, светлы, плечы апушчаныя, лоб высокі, нос сярэдні, прамы, вушы авальныя, у вушах сярэбраныя завушніцы ў выглядзе колаў, вочы блакітныя, круглыя, бровы прамыя, валасы прамыя, цёмнарусыя.

**Была апранутая:** паліто светлага-шэрага колеру з капюшонам, джынсавыя штаны цёмна-сіняга колеру, боты чорнага колеру на невысокім абцасе.

Пераканаўча просім усіх, хто што-небудзь ведае пра месцазнаходжанне зніклай жанчыны, паведаміць у Ашмянскі аддзел міліцыі па тэлефоне **(8-01593) 4-44-42** ці ў Ашмянскі Следчы камітэт: **(8-01593) 7-12-55.**

**Ашмянскі Следчы камітэт.**

ГАРАСКОП (24-30 СТУДЗЕНЯ)



**Авен.** Вас палохаюць перамены, бо вы думаеце, што лепшае – гэта вораг добрага. Але гэта зусім не так, і вам няма чаго баяцца. Трэба быць актыўным, мяняцца, заняцца сабой і прывесці свой унутраны свет да гармоніі.



**Цялец.** Вы нешта сталі канфліктнымі, неапраўдана шмат траціце грошай і маеце неабгрунтаваныя прэтэнзіі да навакольных. Паспрабуйце пераключыцца на іншыя справы ці займіцеся здароўем.



**Блізняты.** Набярыцеся цярпення, бо вам на працягу месяца навакольныя будуць давяраць свае тайны. Паспрабуйце апраўдаць іх давер.



**Рак.** Вы кахаеце і вас кахаюць, але чамусьці гэта не пазбаўляе ад трывог, сумненняў і страху адзіноты. Не бойцеся, усё ў вас будзе як найлепей.



**Леў.** Вы ўвесь час трывожыцеся за дзяцей. Вас не радуе, што іх прыцягвае экстрым і рызыка. Але не перажывайце, яны павінны пражыць сваё жыццё па-свойму, а не так, як хацелася б вам. А вы павінны знайсці нешта захапляльнае ў сваім жыцці.



**Дзева.** Калі летам вы плануеце адпачыць дзесьці за мяжой, то выключыце любыя незапланаваныя траты. Прысвяціце больш часу дамашнім справам, займіцеся творчасцю з дзецьмі.



**Шалі.** Перыяд дорыць вам максімальную свабоду дзеянняў. Ёсць толькі адно абмежаванне: вас будзе пераследаваць накопленая стомленасць. Сачыце за станам здароўя – вам неабходны адпачынак.



**Скарпіён.** Вы ўлюбенец лёсу – вось на каго зваліцца ўсе даброты цывілізацыі.



**Стралец.** Вы атрымаеце ўласнае шчасце, нават калі ў вас ужо ёсць сваё і новага не заказвалі. Разлічвайце на далёкія падарожжы і падтрымку ўплывовых людзей.



**Казярог.** Папулярнасць, рост аўтарытэту і ўплывовасці – перыяд ідэальны для рэалізацыі даўно задуманых спраў, якія прынясуць выгаду.



**Вадалей.** Займайцеся толькі дзецьмі, сабой і сваім здароўем. Магчымы выгадныя прапановы. Памятайце: усё, што ні робіцца, то да лепшага.



**Рыбы.** Вы можаце сустрэць мужчыну, які здасца вам ідэальным. Але не губляйце галаву: у гэты час вельмі моцныя ілюзіі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

### 25 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -14 / -11 | | -15 / -12 | | -17 / -13 | | -17 / -14 | |
| | 750 | ↙ 2 | 751 | ↖ 2 | 744 | ← 4 | 744 | ↖ 6 |
| Вільня | -13 / -10 | | -15 / -11 | | -16 / -12 | | -16 / -12 | |
| | 760 | ← 3 | 760 | ← 3 | 753 | ← 5 | 753 | ← 9 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.11
Захад 17.38
Даўжыня дня 8.27

Усход 3.16
Захад 12.29
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -18 / -12 | 761 | → 0 |
| Гродна | -14 / -12 | 758 | ← 4 |
| Мінск | -15 / -12 | 751 | ↖ 2 |
| Магілёў | -19 / -16 | 759 | ↖ 1 |
| Гомель | -16 / -13 | 761 | ← 2 |
| Брэст | -1 / -1 | 746 | ← 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Калі на Таццянін дзень (25 студзеня) выгляне сонейка – да ранняга прылёту птушак. Калі будзе ісці снег – лета будзе дажджлівае, то месці ёй і праз тры месяцы.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што рабіць, калі вас звольнілі несправядліва? Ці ёсць шанец вярнуцца на работу і атрымаць грашовую кампенсацыю? Вынік адной такой гісторыі раcпавядае юрыст Маладзечанскай пракуратуры.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

Чаплін заняў трэцяе месца на конкурсе двайнікоў Чапліна. Чаплін аднойчы інкогніта прымаў удзел у конкурсе двайнікоў Валацугі. Па адной версіі, ён заняў у конкурсе другое месца, па іншай версіі – трэцяе, па трэцяй версіі – пятае.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Колькі вады вы п'яце на дзень?

**Яўген Вострабародаў, слесар-інструментальшчык:**

– Ведаю, што выпіваць трэба паўтара літра вады ў дзень. Я і прытрымліваюся гэтага, але ваду замяняю сокамі ці гарбатай. Цяпер зіма, таму піць хочацца меней, чым летам.

**Лілія Рагуль, настаўніца:**

– Вады п'ю не вельмі многа, бо не люблю яе. Ведаю, што трэба выпіваць два ці болей літры ў дзень. Па раніцах прымушаю сябе выпіць шклянячку, але мне нясмачна. Так што добра, калі літр у дзень выпіваю.

**Таццяна Скарынка, работніца:**

– Вады п'ю мала, аддаю перавагу гарбаце ці каве. Але ваду люблю з-пад крана, у бутэльках нясмачная.

**Раіса Казунко, лабарант:**

– Акрамя вады, я п'ю і наша маладзечанскае малако. Вельмі смачнае. І вада, тая, што з-пад крана, у нас у Маладзечне добрая, смачная, чыстая.

**Ігар Партон, інжынер-механік:**

– Трэба выпіваць паўтара літра вады на дзень. Летам імкнуся гэтага прытрымлівацца, а зімой холадна і так, не хочацца халодную ваду яшчэ піць. Ды і фільтраваная вада не адрозніваецца ад той, што з-пад крана: усё роўна ад яе застаецца накіп на чайніку.

**Людміла Сівакова, гардэробшчыца:**

– Я ваду не вельмі піць люблю, але лепей ужо вада, чым сокі магазінныя ці кава.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 4 (978) 24.01.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 58. Падпісана ў друк у 10.00 23.01.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.